# Юзаф Ігнатцы КРАШЭЎСКІ



Вядомы беларускі і польскі пісьменнік, гісторык і фальклорыст.

Акрамя таго ён вядомы як крытык, літартуразнаўца, этнограф, выдавец, рэдактар, філосаф, археолаг, краязнаўца, музыкант, мастак і мастацтвазнаўца. Пісаў па-польску. Жыццё і творчасць Крашэўскага звязаны не толькі з Польшчай, але і з Беларуссю. Напісанае ім можа скласці больш за 600 тамоў.

Нарадзіўся ў Варшаве 28 ліпеня 1812 г.

Бацькі Ю. Крашэўскага паходзілі і мелі родавы маёнтак на Пружаншчыне.

Юзэф вучыўся ў Люблінскай ваяводскай школе і ў Свіслацкай гімназіі. Паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, але потым перайшоў на факультэт літаратуры.

Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гадоў, сядзеў у віленскай турме. Яго прысудзілі да высылкі шэраговым у адзін з палкоў каўказкага корпусу, але ў 1832 вызвалілі пад нагляд паліцыі.

З 1833 г. жыў у маёнтку Доўгае каля Пружан (Брэсцкая вобл.).

У 1834 г. вандраваў па Палессі, выязджаў у Вільню, працаваў над кнігай з гісторыі горада. З 1837 г. жыў на Валыні, спачатку ў маёнтку Амельна, потым – Гродэк, Губін, а ў 1853 г. – ў Жытоміры.

У Вільні 10 гадоў рэдагаваў часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»). У 1858 ажаніўся з Соф’яй Вароніч, у тым жа годзё ён стаў рэдактарам «Gazety Codziennej», пазней «Gazety Polskieej». З 1859 г. перабраўся ў Варшаву.

Калі пачалося паўстанне 1863–1864 гг., Крашэўскі, баючыся арышту, назаўжды пакінуў Польшчу. З 1863 г. у эміграцыі, жыў у розных гарадах Германіі, найбольш у Дрэздэне, дзе меў сваю друкарню.

Памёр Крашэўскі 19 сакавіка 1887 г.

Ён пабываў у розных кутках Еўропы, многа ездзіў па Польшчы, Украіне, Германіі, абыйшоў і аб’ездзіў амаль што ўсю Беларусь. Вынікам вандраванняў сталі не толькі мастацкія творы, але і падарожныя нататкі.

Крашэўскі многа займаўся зборам і вывучэннем беларускага фальклору. Сярод прац на гэтую тэму – «Пінск і ваколіцы» (1837), «Некалькі замалёвак з жыцця сельскага насельніцтва Кобрынскага павета» (1850), «Успаміны пра Палессе, Валынь і Літву» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1842), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына, Пружан» (1860).

# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

БРЭСЦКІ РАЁННЫ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭЯЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ,
КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ
РАЙВЫКАНКАМА

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ



**Кантакты:**
(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-224
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 18.09.2013.
Фармат 70х100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці»,
г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал макет падрыхтаваны
ТАА «Паліграфіка», зак. 439-2013.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013,
вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тэл. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я с. вокладкі:** Наталля Зелянко,
«Музыка», бацік
**4-я с. вокладкі:** Наталля Зелянко,
«Прынцэса на гарошыне», фрагмент, бацік

У афармленні выкарыстаны выцінанкі
мастачкі Святланы Вяль

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 4 [4]•2013**

У НУМАРЫ:

# К 150-летию Остромечевской средней школы



Здание избы-читальни, открытой в 1905 г.



№ 746. Воскресенье, 15 мая 1905 г. Годъ XX № 746. Воскресенье 15 мая 1905 г.

СѢВЕРО-ЗАПАДНЫЙ КРАЙ

ВЫХОДИТЪ въ Минскѣ губ. ЕЖЕДНЕВНО

СТРОИТЕЛИ ЖИЗНИ

Минскій лѣтній театръ.

Іудейскій Король Лиръ

Въ Минскомъ Общественномъ Собраніи сдается содержаніе буфета

Въ лѣтнемъ Губернаторскомъ саду РЕСТОРАНЪ

З. Б. ПРОТАСЪ

Рояли и Піанино

15 лѣтъ практики.

Газета избы-читальни 1905 г.



Здания народного училища 1905 г. постройки

Учитель народного училища 1905–1912 гг., первый библиотекарь избы-читальни Зенкевич А.П. Фото 1965 г.





Выпускник народного училища Н. Павлючик



Фото 50-х годов



Пионерский актив, старшая пионервожатая Г. Иванюк, 1964 г.



Сентябрь 1944 года. 1-6 классы Остромечевской СШ



Третье здание школы, построенное в 1955 году

# «АСТРАМЕЧАЎСКІЯ ЛЯВОНЫ»

**Шляхам эстэтычнай народнасці**

З даўніх часоў у нашых вёсках гарманіст быў у вялікай пашане і мог выбраць сабе самую прыгожую дзяўчыну. Таму вясковыя хлопцы імкнуліся навучыцца іграць на гармоніку.



Вучыліся без нот, на слых пераймалі вопыт дарослых. Пад гармонік спраўлялі сямейныя і вясковыя святы, спявалі і танцавалі. Ды і ў нас час сельскія жыхары не супраць пусціцца ў танцы пад заліхвацкія пераборы гармоніка. Большая частка такіх гарманістаў з ахвотай наведвала аматарсія калектывы ўстаноў культуры.

Ансамбль гарманістаў «Астрамечаўскія лявоны» быў створаны ў 1985 годзе пры Астрамечаўскім сельскім Доме культуры. Аснову яго складалі аматары народнай музыкі і песні: працаўнікі сельскагаспадарчага комплексу «Астрамечава», настаўнікі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы і школы мастацтваў, медык мясцовай амбулаторыі. Першым музычным творам, які выканаў ансамбль, была беларуская полька «Лявоніха», адкуль і пайшла назва калектыву. У складзе ансамбля : Шаўчэнка І.С., Босак С.П., Шунькін І.С., Лешкевіч І.Г., Самасюк М.Р., Крэйдзіч А.М., Крэйдзіч А.А., Антанюк У.Ф., Мечынскі А.І., Міраненка С.М., Агіевіч А.М., Мозаль Ф.А. Пасля выхаду на экран у 1986 годзе тэлеперадачы «Іграй, гармонь любімая!» значна актывізавалася работа з гарманістамі. У нашым Брэсцкім раёне былі праведзены два раённыя агляды «Грай, гармонік!», якія прайшлі ў в. Астрамечава і в. Страдзеч. Ансамбль «Лявоны» сярод удзельнікаў быў лепшым. У 1988 годзе ансамбль стаў пераможцам I абласнога агляду-конкурсу «Іграй, гармонік». З гэтых памятных выступленняў пачалася актыўная канцэртная дзейнасць ансамбля. Гарманісты сталі ўдзельнічаць у раённых і абласных мерапрыемствах.

Пазней, калі ў склад калектыву ўвайшлі салісты: Абрамчук А.В., Тарышава В.Б., Мозаль В.А., Мельнік Л.М., Мілеўская В.І., Башчук Т.К., Вабішчэвіч Н.М. і ў ансамблі загучала ў руках Панько Н.Я. скрыпка, ансамбль гарманістаў быў ператвораны ў ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны». Аснову рэпертуару ансамбля складаюць беларускія народныя песні і танцы. Ёсць у рэпертуары таксама ўкраінскія, рус-






кія мелодыі і песні. У складзе ансамбля – скрыпка, гармонікі, баян, шумавыя і ўдарныя інструменты. За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый 22 лютага 2001 года ансамблю прысвоена званне «народны».

Сваёй самабытнасцю, віртуознасцю ігры на музычных інструментах, непаўторнай тэмбравай афарбоўкай і дыяпазонам галасоў здзіўлялі яны слухачоў многіх канцэртных залаў Беларусі, Германіі, Славакіі, Літвы і Польшчы.

Увесь час кіраўніком ансамбля з'яўляецца Фёдар Аляксеевіч Мозаль. За гады працы ён паказаў сябе добрым арганізатарам, прафесійна граматным кіраўніком, які змог згуртаваць вакол сябе таленавітых людзей, заваяваць трывалы аўтарытэт не толькі ў аднавяскоўцаў, але і ў жыхароў раёна і горада. За добрасумленную працу, зберажэнне багацця нацыянальнай культуры Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Фёдару Аляксеевічу прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь».



Калектыў неаднаразова запрашаўся на міжнародныя фестывалі і святы. Ён з'яўляецца ўдзельнікам Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі ў горадзе Цярэспаль (Польшча), Міжнароднага фестывалю «Іграе гармонік, звіняць цымбалы» ў горадзе Паставы (Беларусь), Міжнароднага фальклорнага фестывалю «Гомора» ў горадзе Іршава (Украіна), свята беларускай песні «Вільна-2008» у г. Вісагінас і г. Вільнюс (Літва), II-га Міжнароднага фестывалю «Живий вогонь» у г. Чарнаўцы (Украіна) і многіх іншых фестываляў.

Неаднаразова калектыў ўзнагароджваўся дыпломамі лаўрэатаў, ганаровымі граматамі і пісьмамі-падзякамі.

У гэтым годзе народны ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны» з узнагародай вярнуўся з абласнога свята-конкусу «Грай гармонік, звіні прыпеўка!» (Пінскі раён в. Парэчча) прымаў удзел у абласным фестывалі-кірмашы «Дажынкі -2013» (г. Ляхавічы).

Народны ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны» мае поспех у гледачоў, бо не шкадуе свайго таленту, які льецца ад сэрца і для душы.

*Галіна МАКАВЕЦКАЯ,*
*метадыст раённага мэтадычнага цэнтра аддзела ідэялагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага райвыканкама*




# БУДНИ И ПРАЗДНИКИ ОСТРОМЕЧЕВЦЕВ



На открытии Остромечевской врачебной амбулатории, 2007



Снимок с автографом П.И.Климука в день 70-летия космонавта, 2012



Крестный ход. Праздник Покрова Пресвятой Богородицы, 14 октября 2013 года



Ученики Остромечевской детской школы искусств в районном Доме ремесел

*Фото Михаила Губарева*

# Дыялектныя прысказкі і прымаўкі Астрамечаўскага рэгіёна



*З краязнаўчых сшыткаў патрыёта і даследчыка, жыхара вескі Лышчыцы сына Петрыка Міхаіла МАРТЫНЧУКА*

Будыш чужое хапаты – будыш Богом прокляты
Высоко скачыш – нызко впадэш
Дару проса, коб молода ны ходыла боса.
Диты, диты. куды вас подиты...

До святого духа ны здыймай кожуха.
Добрэ жыто, кулы жыд ны знае грунту,
а мужык фунту.
Добрэ спаты – здоровье маты(иметь).
Дурынь з двэрцямы.

Дэ взяты тыи грабли, шчоб од сэбэ грыблы.
Дэрво посадыв – Богу угодыв.
Жывуть душа в душу.
Запыв – сыбэ прыбыв.

Злазь з даху. ны псуй гонту.
Зять любыть взять.
Коб довго жыты, трэба всих любыты.
Косы до поту – пойисы в охоту.

Крывыцця, як гирка рэдька.
Липш хлиб з водою, чым коровай з быдою.
Людэй губыты – свита ны бачыты.
Людэй обижаты – сыбэ зныважаты.

Мниго снига – мниго хлиба, ныма снига –
ныма хлиба.
Мух оцётом ны ловять.
На дурнях воду возять.
На мисцю и камынь обростае.

На Михайила зыма вьихала.
Обыцанка – цацанка, а дурнёвы радость.
Помыняв быка на индыка
Покиль товстый ссохнэ – тонкый здохнэ.

После Илли сыдыть курч (судорога) у води.
После Мыколы – тыпла ныколы.
После Спаса рукавыци до пояса.
Пропадэш, як швэд пуд Палтавою.

Прупав, як бунька на води.
Пушов в дыкы лозы.
Рано вставаты – жытте поважаты.
Ранок – панок.

Сало з часныком липш, чым дуля (груша) з маком.
Смитте збырайиш – об жытти дбайиш.
Смитте збыраты – Зэмлю ратуваты.
Собакы ны брыхалы, а грошы укралы.

Сонцэ в гору – мороз в нору.
Там дэ кварта – там и Марта.
Там дэ сядыш, там и злизыш (На ёму — на нём).
Типун тоби на язык.

Трэба тоби, як мэртвому кадыло.
Тыпэр (сегодня) пан, завтра пропав.
У Бога, дён мниго.
Хто дбае, той и мае.

Хто дорого купляе – той лышок мае,
а хто дёшуво купляе – той ныц ны мае.
Хто крутыть, той и мае.
Хто ны мниго выпывае, той розум мае,
хто мниго выпывае той розума зувсим ны мае.
Як корова языком злызала.

# ПРЕСМЫЦКАЯ Мария Ивановна, хранительница песенных традиций ПРИБУЖЬЯ

## ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА



Мария Пресмыцкая (на переднем плане, 8 лет) с мамой и бабушкой, 1932 г.



Мария Ивановна Пресмыцкая с мужем, 60-е гг.



Дети д. Страдечь, 40-е гг.



Мария Ивановна Пресмыцкая с мужем, 60-е гг.



Клуня, д. Страдечь, 50-е гг.

*От Пресмыцкой Марии Ивановны (1924 г.р., местная, православная, д. Страдечь)*

## Эту песню поют перед венчанием, когда вьют венки:

У гроде зилле пачынае,
У нашэй Манечки вэсылле зачынае.
Зачынаецца, пачынаецца вэсылле.
Батечко, матэчко помогаюць.

Наша Манечка слезы лье.
Что ты, Манечка, так плачэш?
Чого ты, молодэнька, плачэш?
– В тэбэ роду мниго, а у мне мало.
– Не плач, Манечка!
Я свою мацэнку сам перапрошу, сам попрошу.

*Прим. Род – приданое за невесту.*

## Эту песню поют во время проводов на венчание:

Усклонылася вэрба од вэрха до корня.
Уклонэлася вэрба од вэрха до корня.
Чэрэз тыл до мацёнки,
Чэрэз тыл голову клоныць.
А по тыл слезёнку роныць.
Слеза слезинку побивае,
А мацёнка выраджае:
Як до цэркви зайдэш, не пэшэся,
Господу Богу помолэся,
Прэсвятэй Деве уклонэся:
Ох, Прэсвята Божа Маты, допоможы ми шлюбу взятэ,
На белым рочничку постояты,
У ручцэ белу свечку потрыматы.

Забрончало золото у шкофовы стоячы.
Заплакала Манечка
У з вэньцу прыихавшы.

* Матэрыялы раздзела «Чароўныя спевы і паданні спадчыны» сабралі, запісалі і сфатаграфавалі студэнты-філолагі БрГУ імя А.С.Пушкіна - удзельнікі фальклорна-гістарычнай экспедыцыі, якая адбылася летам бягучага года па насельным кропкам Брэсцкага раёна пад эгідай аддзела ідэялагічная работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага райвыканкама. У склад экспедыцыі ўваходзілі: Аліна Баліцэвіч, Вераніка Бабкова, Вольга Гронская, Таццяна Демідюк, Ганна Ліхван, Юлія Панасюк, Вольга Струг. Кіраўнікі: доктар філалагічных навук, прафесар Іна Швед і пісьменнік, рэдактар альманаха «Астрамечаўскі рукапіс» Аляксандр Валковіч. Захоўваецца сінтаксіс і арфаграфія аўтарскай мовы, а таксама знешні выгляд (на фотаздымках) рэчыўных арыгіналаў.

– Ох, мой батэнько, ридны батэнько!
Звязав нам кипры, каб не было розлуку.
З тым чужым-чужом,
З чужою сторононька.
З людскей намовоньке.
Ох, мой батэнько, ридны батэнько!
Розвяжы ручки мои, розмэняй пэрстэнэк.
– Ох, дитятко мое!
Лучшэ тыщу датэ,
Ниж твои пэрстэ розменяты.

Як прыихав – 2 р.
Ой, з дороги,
Ох, приихав з дороги-дорожэньки.
И выкликав батэнька з коморы,
Ой, выкликав батэнька ридного з коморы.
Ой, чы радэй ми батэнько?
Ой, чы радэй ми риднинкий?
Радом я то, мий сыненьку,
Як ты родився.
Ой, тэпир я радый, як ешчэ жынився,
Тэпер я, родненьки, став ешчэ радэйшы,
Як тобе звинчалы.

## Авторская песня Марии Ивановны Пресмыцкой

Вчера был милый презадуман
И тяжёло воздыхал,
На грудь он голову повесил
И говорить он зачинал:
– Послушай, милка дорогая,
Сегодня плакать я готов,
Тоска в груди моей играет,
А сердце мучает любовь.
Меня родители ругают,
Сестры тобой глаза дерут,
С другой жениться заставляют,
Тебя любить мне не дают.
А я ответил им серьезно:
Кого люблю, того возьму!
Они воскликнули все разом:
Только не в нашую семью!
Отец сказал – лишу хозяйства!
А мать – не буду сыном звать!
Берите нашее проклятье –
Идите в свет счастья искать!

Я дорожу, милка, тобою
И не могу тебя забыть,
Тоска в груди моей играет,
Готов я жизнь свою решить!

## Частушки

Ты моя соперница,
Наш миленок женится.
Ты рычала на меня –
Не пойдешь ни ты, ни я.

Мой миленок хитрый-хитрый,
Я хитрее его.
Он мою подружку любит,
Я товарища его.

Вспомни, милый,
Як ты первый раз пришел.
Як обещал любить до гробу,
А теперь к другой ушел.

Вспомни, милый, як гуляли,
Сколько ночек не доспали,
Сколько темных, сколько ясных
Жалко будет как напрасно.

Мы с подружкой живем
Окошечко в окошечко.
Одного мальчишку любим
Сердимся немноженько.

Милый рядышком садится
Говорит, будешь моя.
Отвернется, засмеется,
Думает, что дура я.

Дура я, дура,
Шо с дураком связалася,
Что бы умная была,
С умным бы связалася.

Мене милый изменил,
Девочки сознаются,
Я хочу по нем заплакать,
Да все забываюся.

# Вясельны абрад у вёсцы Нехалсты



***Вольга ГРОНСКАЯ,***
*студэнтка*
*філалагічнага факультэта*
*БрДУ імя А.С. Пушкіна*

Сям'я – аснова грамадства ў любым этнасе ў розныя гістарычныя эпохі, таму стварэнне новай сям'і ў выніку шлюбу заўсёды было важнай падзеяй. На працягу стагоддзяў складваўся традыцыйны шлюбны рытуал. Існавалі няпісаныя сацыянарматыўныя правілы паводзін, абавязкаў, узаемаадносін паміж рознымі асобамі, паводле якіх маладая сям'я магла вылучацца як самастойная, простая (нуклеарная) або ўвайсці ў сям'ю бацькоў як адна з частак складанай сям'і. Шлюб, у выніку якога новая сям'я ўлівалася ў сям'ю бацькоў жонкі, называўся уксарыялькальным (сям'я – матрылакальнай), калі ж маладыя пасяляліся ў доме сям'і жаніха – вірылакальным (патрылакальная сям'я).

Беларускае вяселле, як і шлюбная абраднасць многіх іншых народаў, складаецца з трох этапаў: передвясельнага, уласнавясельнага і паслявясельнага. У рытуал усіх этапаў уваходзіла шмат разнастайных абрадаў, якія сфарміраваліся ў далёкім мінулым і ў сваёй аснове маюць устойлівыя традыцыі з надзвычайна багатай вярбальнай часткай як па зместу, так і па дасканальнай мастацкай форме. Разам з тым вясельныя абрады змяніліся ў працэсе развіцця культуры, пераасэнсоўвалася іх функцыянальнасць.

Разгледзім абрад вяселля на прыкладзе вёскі Нехалсты, які расказала Багнюк Ніна Міхайлаўна (1950 г.н.).

Сватанне – адзін з важнейшых абрадаў передвясельнага этапа. Здаралася

так, што сватанне пераўтваралася ў запоіны, пасля якіх яшчэ і наладжваліся заручыны. Гэта было характэрна і для вёскі Нехалсты: «Ну, сваты приходили как обычно. Я сама ходила к своему племяннику. В нас тоже, мы ходили в сваты, ну, шо было вже не так и давно. В 1996 году ходили. Тоже говорили, что в вашем доме есть... В нас, вот, есть купец-молодец, а в вашем доме краса-девица. Ну, и они там стол, конечно, складывали всё. Ну, и сидели. Мы ставили, мы ходили, брали 4 бутылки водки, на каждый угол стола, чтоб было по бутылке. Ну, пирог пекли, потому что с пирогом шли, раньше с хлебом. Но теперь вже с пирогом шли. Мне мама выпекала, так красиво делала. Цветочками всякими такими из теста, листики, цветочки. Вот мама такой делала сама. Ну, и колбасу брали, конечно, две палки брали, и рушник. Мы свой рушник брали, корзинки, полотенца, и обменивались рушниками, они нам свой оставляли, а мы им свой. И еще, когда сваты, если мужчины, то им обвязывали такими полотенцами. Обвязывала мама, та, к которой мы пришли, то есть, если договор хороший, свадьба будет, то они свату обвязывали, давали свой рушник. А потом этот сват и на свадьбе был в этом рушнике. А потом, вот, когда режут коровай, то награждают того человека этим красивым полотенцем».

Сватанне звычайна адбывалася вечарам: «В особенности идут под вечер всегда и еще говорили, что раньше соломой... вот, в ту хату, в которую идут, соломой устилали. Для чего – не знаю. Вот, что в этой хате свадьба и надо солому натрясти, вот, примерно, от дороги и до самого дома застилали соломой».

На пярэдадні вяселля адбываўся дзявоцкі вечар, у які сяброўкі нявесты плялі вянкі і спявалі: «На веночках были подруги. Они там делали вже к свадьбе эти... такие... связывали шпарагус, растет такой зеленый. И вот, брали ленточки, и мы уже наделовали каждому, чтоб, кто приходит, был веночек. Всем были белые, что мужчинам, что женщинам. Не знаю, в нас было так. На правую – это женщинам, а на левую – это не женатым. Так было. Вот так делали».

Часта маладыя дзяўчаткі варажылі на свой будучы лес: «Вот, я токо знаю, што, когда мы ворожили на щедруху, на щедрый вечер, то мы, знаю, што так прыносили в хату, значит, курицу, черную курицу, надо и ложили, каждая свою кучу зерна, и пускали курицу. В кого она первая клюнет, та первой замуж и выйдет. И еще этот... ложили, значит, эти... как их... кольцо, смотрели: кто вытянет. На столе складывали под платком. Цап, если вытянет кольцо, то значит замуж выйдет, если курица клюнет в этот... (стакан водочки стоял), если клюнет, пойдет водку, значит, муж будет пьяница. Это точно так было. У меня клюнула. Я поставила водку, курица пошла, цап, и сразу туда. Ну, вот мой муж выпивает до сих пор. Ну, сбылось, я бы в жизни не подумала б, шо у меня будет муж пьяница, а тут все.

Еще ложили куклу, если курица подойдет туда, к кукле, то значит и можешь случайно и до брака байструка. Это точно так было, то я знаю.

Ходили под окно, как жениха зовут, бегали, кричали. Стучим в окно: «Скажите, как жениха зовут?» Тоже для нас сказали такое слово, мы побежали. «О-е-ей! Как некрасиво, как некрасиво!» Плохое имя, еще поговорка такая. Мы говорили: «Как жениха зовут», а они: «Аныким – с хреном великим». Ну, вот мама моя рассказывала, што она, когда она себе гадала, то ложить надо так: ставить ведро с водой под кровать и ложить, значит, полено, если тебе приснится, кто проведет тебя через это, то в этом году замуж выйдешь. А если положить расче-

ску, тоже так же само. Расческа, полено. Кто тебе придет расчесывать твои волосы. Маме точно приснился отец мой, да. Вот приснился, што пришел, расчесывал ей волосы. Вот и все. И она вышла замуж».

Бывала так, што маладым дзяўчатам сніліся сны пра свой лёс. Так было і ў Ніны Міхайлаўны: «Если снится, что в тебя такой... Если парень снится, что венок тебе подарил с цветов, то обязательно замуж выйдешь. Мне так снилось. Я никогда б не подумала, што это будет мой парень. Даже я его не знала и не ведала. Если снится вже женщине, шо рыбу поймаешь, то обязательно будешь беременна. Мне снилось, когда я первый раз родила, шо такую рыбу большую поймала. Такая большая, аж золотая. Ну, дочка светлая вышла.

А потом ходила на три дня, когда женщина ходит. Снится мне маленький замурзанный котенок, и я его отогнала от себя. И я сходила на три дня. И ... был бы мальчик».

Адным з самых важных абрадаў у вяселлі быў каравайны абрад. Сімволіка каравая – гэта перш за ўсё сімволіка хлеба, з якім было звязана ўсе жыццё селяніна. Пачынаўся ён у розных месцах не ў адзін час. Не было аднолькавай колькасці і каравайніц, адрозніваўся ў пэўнай мясцовасці і іх склад. У сваім апісанні вясельнага абраду Ніна Міхайлаўна адзначыла: «Приходили коровайницы, примерно, то в пятницу у нас было, вот, как моя была свадьба, в пятницу приходили. Ну, не такие старые, старые приходили петь только, а молодые, вот, такие до 40 лет женщины приходили, брали с собой муку, яйца, сахар и вот... в большой такой ночевке, как говорят на белорусском языке, и вот всё они туда брали, и вот все туда замешивают. Но там не должно быть вдов, потому что счастья не будет, говорят. Только замужние женщины, одевались так: надо было коровайницам идти – белая кофточка, черная юбочка и беленький платочек, потому что коровай мешать нельзя, может волосы упадут или что. Мы мешали тесто руками. Мы, правда, сами видели, как старшие делают – и сами так себе делали. Коровай из теста украшениями. Ну, цветами и вот... такой каждый кусочек получается по краю как плетеночка. А потом уже, когда вносят коровай и маленькие детки, ну, такие до 6, до 5 лет, они бросали этот... борвинок. Это украшали коровай сверху. И потом деткам бросали конфеты».

Каравай звычайна выносіў дружок жаніха. Калі вызывалі да караваю нявесту, то прыгаворвалі: «О, идет какая красавица, купчиха. Она богатая, у ней кладовая полная добра. У ней замки и машин много».

Другі этап вяселля – уласнавясельны, які адзначаўся звычайна у два этапы. Пасля вянчання маладыя вярталіся ў хату нявесты, дзе іх сустракалі бацькі, якія давалі ім выпіць меду і гарэлкі: «Ну, обсыпали цветами дорожку, когда идут они вже к родителям и давали мед. Цветами обсыпали, какие были по сезону: и астры, и незабудки, всякие-всякие. И житом посыпали их тоже. А еще мать должна дать, мать молодого, дать меду по ложке. Ну, щоб медом казалась жизнь для нее.

А еще спавивальником таким свивали, когда сидят молодые двое, то свекровь снимает фату с невесты, завязывает ей косынку или платок, во. И берет такой спавивальник. Ну, это такое, типо, как полотенце большое или как простынь такая длинная, вот. И она им так двоим головы... вместе, вот, к себе прижимает, шоб жизнь была такая крепкая».

Пасля таго, як сустрэлі жаніха і нявесту, садзілі іх за стол у чырвоным вуглу: «Молодые садились в красном углу.

Сначала садились от невесты – невестины гости, а от жениха – жениховы, а потом уже в перемешку».

На другі дзень вяселля рабілі розныя гульні, асноўнай сімволікай якіх быў працяг роду: «На второй день там вже все: пели-ели, одевались цыганами. Брали другую невесту, одевали всякое на нее, всякую одежду и капелюш, и всякую такую ерунду делали для них. Женщину одевали в молодого и цепляли кукурузку. Мужики были... делали кони, одевали на себя такие одежды. Вот едут кони. Коней надо напоить. Накидаю такие, как попоны, такие плахты один и другой, а третий на них садился, едет на конях, въезжает на этих двух, и говорит: «Кони хотят пить, кони хотят есть». Ну, и им дают. И выпить дают, и все. И потом кони уезжают. Ну, у этих мнимых цыган и дите уже было. «Вот видите, вот, вже мы ночь переспали и вот вже в нас ребеночек есть. И на ребеночка мы собираем, и на пеленочки». Невесту делали из тюли старой, может и из новой».

Таксама традыцыйна ў нявесты павінен быў быць пасаг: «Ну, раньше-то были тканые, все с тканой, своей работы. Вышитые должны быть все эти полотенца. Она должна давать сватам. И много чтоб она наткала плахты, «диваны» сейчас называют. Подушки шоб были хорошие. Вот это-то все приданое».

Такім чынам, у беларускім вяселлі адлюстраваліся сацыяльныя, маральна-этнічныя, рэлігійныя погляды народа, яго вера ў магічную сілу абрада, у тым ліку іх вербальнай часткі. Трэба адзначыць таксама тое, што для розных рэгіёнаў характэрны розныя асаблівасці правядзення абраду вяселля.

## Ой, бэжуть кони

Ой, бэжуть кони
у чыстым поли,
там моя дэвчына
пшэнычыньку полэ.
Пшэнычыньку полэ,
кокуль выбирае,
воронам бросае.
Дай годэ дывчына
кокуль выбираты,
дай иды дивчына
постиль билы слаты.
Постильку постэлю,
сама я нэ ляжу,
козак молодэньки
з мэнэ одразу.
Девчынонька дура,
лэгла дай заснула,
козак насмеяу́ся,
дэвчына нэ чула.
Ой, божэ, муй божэ,
шо я наробыла,
якая я стала.
Учора лажылася,
як чэрвона рожа,
а тэпэр я стала,
як біла бяроза.
На тоби, дэвчына,
сто рублюв на мыло,
сто рублюв на пыво.
Мылом намывайся,
пывом напывайся,
коб краска сыграла,
коб маты нэ знала,
з ким нуч ночовала.



*Запісала студэнтка БрДУ імя А.С. Пушкіна Юлія МЕЛЕХ ад Брэнковіч Яу́геніі Пятроу́ны (1930 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая). Запіс 2012 г.*

# «Радуйся, ой, радуйся, зэмле, Сын Божый народывся»

## Каляды на Прыбужжы



***Іна Швед,***
***доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна***

*(Заканчэнне. Пачатак у № 3)*

«Колядныкі» выконвалі «святыя» («цэрковныя») песні – рэлігійныя калядкі, вершы, кандакі, узнікшыя на аснове Свяшчэннага Пісання, легендарных аповедаў пра Ісуса Хрыста, Божую Маці, апосталаў.

Мы прыйшлы вас повытаты
І про свято росказаты.
Про святэ Роздво Господне
Проспіваты вам сёгодне.
Хрыстос народывся –
Вісь народ радуе!

***(Кавярдзякі Брэсцкага р-на, зап. ад Курчак Марыі Анатольеўны, 1979 г.н., украінкі, прав., пераехала з Украіны ў 1999 г.).***

***

Рожджэство Твое,
Хрысте Божэ наш,
Возсия мирови свет разума.
В нем бо звездам служащии
Звездою ўчахуся Тебе кланятися,
Сонцу правды, и Тебе видети,
С высоты Востока.
Господи, слава Тебе!

***(Альха Брэсцкага р-на,***
***зап. ад Шмыдкай К.М.).***

# НОВА РАДОСТ' СТАЛА...

Нова радост' стала,
Яко ныбывала –
Звезда ясна над вертепом
Світлом возсіяла.

Гдэ Хрыстос родывся,
З Дэвы воплотывся,
Як чоловік пэлынамы
У Бога повывся.

Ангелы співають
Цара вітають,
Із Мары рождэннего,
Смырэнно благають.

Давід выгравае,
В гуслі ударае,
Мыло дыво йі правдыво
Бога выхволяе.

І мы тожэ спываймо,
Хрыста прославляймо,
Ыз Мары рождэннэго
Смырэнно благаймо.

Просымо те, цару,
Нэбеснэй владару,
Даруй літо шчаслывый
Сему господару.

В мірэ проводыты
І тэбэ вгодыты
І з тобою в царстві твоім
Во вік віков жыты.

*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А., 1934 г.н.).*

***

Всем чудо совершилось,
Всем таинство открылось:
Бог от Девы воплотился
И мир темный осветился.

Небо и земля ликуют,
Все творенье торжествует,
Вся тварь в дивном восхищеньи
Славит Божие Рожденье.

Все к Рожденному приходят,
В Вифлееме и там находят
Для своих душ утешенье
И для сердца просвещенье.

*(Астрамечава Брэсцкага р-на, зап. ад Нігачой В.П.).*

***

У Віфлеемі
В стайні на сіні
Хрыстос родывся
Всім на спасіння.
Люды, радійтэ,
Хрыста вітайтэ.
Божому сыну
Славу отдайтэ.
Слава на небі
Богу Святому.
На зэмлі спокой
Роду людскому!

*(Кавярдзякі Брэсцкага р-на, зап. ад Курчак М.А.).*

***

Рождество Христово, ангел прилетел,
Он летел по небу, людям песни пел.
Все люди ликуйте, в сей день торжествуйте,
Днесь Христово Рождество!
Я лечу от Бога, радость вам принес,
Что в пещере темной родился Христос.
Скоро поспешайте, Младенца витайте, Новорожденного!
Пастушки в пещеру прежде всех пришли,
В яслях на соломе Господа нашли.
На колени пали, Христу дары дали, Богу воплощенному.
Ирод злочестивый о Христе узнал
И убить Младенца воинов послал.
Всех детей убили, мечи притупили,
А Христос в Египте был.
Много мы грешили, Боже, пред тобою,
Все мы очень грешны, Ты один святой.
Прости согрешенья!
Дай нам обновленья!
В день Христова Рождества!

*(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Брык Яўгеніі Мікіцічны, 1939 г.н., пісьм., правасл., мясцовая).*

***

В Рождэство Хрыстово
Ангел прылітэв,
Он літыв по нібу
Людым пісню пэв.
Всі люды лікуйтэ, тэй дэнь торжэствуйтэ, } 2 р.
Е Хрыстово Рождэство.

Він літыв од Бога, радость нам прынес,
Шо в пешчері цёмной родывся Хрыстос.
Скорэй поспішайтэ, младэнца вітайтэ} 2 р.
Новага рождённого.

Пастухы в пэшчору раньчэ всіх прышлы,
В яслі на соломэ Господа нашлы.
На колэні впалы, Хрысту дары далі} 2 р.
Новому рождённому.

Йірад злочэстывы о Хрыстэ узнав,
Выбыты младэнців воінов послав.
Всіх дытэй забылы, мычы прытынылы,
А Ісус в Іегіпт'і быв.

Всэ літо грышылы, Спасе, прэд тобой.
Мы всі люды грэшны, одын ты світой.
Просты согрэшэння, дай нам обновлэння,
Е Хрыстово Рожэство.
*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А., 1934 г.н.).*

***

По всіму світу
Встала новына:
Дэва Марыя
Сына родыла.
В яслі положыла,
Сінцэм прытрусыла } 2 р.
Господнего сына.
Прышлы анёлы з нэба до землы,
Прынеслі дары Дэве Марыі.
Тры свечы восковэ } 2 р.
Іісусові Хрыстові.
*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А.).*

# ЧЫ ЧУЛЫ ВЫ, БРАЦЦЯ?

Чы чулы вы, брацця,
Шо то за новына?
Розгнівався Ірод вельмі
На Божого Сына.

А Ірод лукавый,
Того розгнывівся,
Шо Ісус ужэ малэнькій
На світ народывся.

Ой, хотыв він царство
Собі захватыты,
І додумав він Ісуса
Малэнького вбіты.

А Божая Маты
Усэ тое знала,
І вона ўжэ с Ісусам
У пустыню втыкала.

Ой, шла Маты полем,
Буйны вітэр віяв,
А там собі гаспадарык
Пшанычэньку сіяв.

І до господара
Прыйшла Божа Маты
І з йім ужэ стала
Вона розмовляты.

– Добрэй господару,
Ны дай нам пропасты,
Ісховай нас, господару,
Ад вражэй напасты.

– О Божая Маты,
Нэбэсна царыца!
А дэ ж Вас сховаты –
Ны взошла пшаныца.

Як Божая Маты
На поле вступыла,
Пшанычэнька взошла
І зразу зацвыла.

І Божая Маты
За ныівною сыла,
А пшанычэнька зацвіла
І зразу поспіла.

– Ховайся, Божая Маты,
Ховай свого Сына,
Бо вжэ, выдно ныдалэко
Ідэ вражжа сыла.

Скажы, Божая Маты,
Шо мыні козаты,
Ой, як будэ мыні Ірод
Про тэбэ пытаты.

– Ой, як будэ Ірод
Про мэне пытаты,
То скажы, шо давно шла
З Дытыною Маты.

І до господара
Прышло войска вражэ,
А вжэ Ірод той лукавый
Господару кажэ:

– Скажы, господарэ,
Ні смій нам солгаты,
Ой, чы шла тут коло тэбэ
З Дытыною Маты.

– Ой, ішла, ішла сходою,
Буйнэй вітэр віяв,
Тоды я ў тое ўрэмя
Пшанычэньку сіяв...

Став Ірод думаты,
Став назад вэртаты,
Шчо давно вжэ тое було –
Нам іх ны догнаты!

Заговорыла Маты
До свойого Сына:
– Будэ шчаслывая
Вса тая краіна!..

*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А.).*

## В МІСТЭ ВІФЛІЕМЕ

В містэ ў Віфліеме
Сталася новына,
Шчо Прэчыста Дыва
По світы ходыла.

Зайшла вона до сыла
До пэршоі хаты:
– Господарэ мылый,
Прыймы ночуваты!..

– Рад бы я прыняты,
Паняночко мыла,
Хатына малэнька
Ды й дыточок сыла.

Е у мэнэ шопа,
Дэ стоят' ягняты,
Там я тэбэ прыйму
Пыраночоваты.

В ночы ў півночы
Жынка пробудылась:
– Вставай, чоловічэ,
Якась е новына,
Шчо над нашой хатой
Зора засвытыла...
– Ой, то ны с зоры,
То Прычыста Дыва
Сына породыла!..

– Як бы було б, знав бы,
Шо то Дыва з Богом,
Було б, постылыв б
Дітям під порогом.

– Я ны хотіла спаты
І ны ночуваты,
Я тількі хотіла
Ісуса скупаты.

Слава Богу, слава,
Роса з нэба впала,
Роса з нэба впала,
Ісуса скупала.

*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А.)*

Акрамя таго, гурты каляднікаў выконвалі традыцыйныя агульныя калядкі, а таксама песні, прысвечаныя гаспадару, яго жонцы і дзецям, прыкладам:

***

Добрый вечер, пан-господар,
Отчіні окно, штоб было добро,
Отчіні сені, штоб пчёлы селі
В хвоі двоі, в дубе троі,
Позвольте песню петь.
*(Лышчыцы Брэсцкага р-на, зап. ад Хоміч Зіноўі Клімаўны, 1946 г.н., пісьм., правасл., прыезджая).*

***

А колядочкы, ходытэ хутэнько,
Ай, лэ-лэ.
Ходытэ хутэнько.
Нашыя дзевочкы сумнэнькыя.
Ай, лэ-лэ.
Каб нам колядочок на нядзелёк дзесяток.
Ай, лэ-лэ.
*(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Саплевіч В.П.).*

***

А Колядочкы – бліны-ладочкы,
Ой, люлі, люлі, бліны-ладочкы.
А троецкыя – бліны грэцкыя,
Ой, люлі, люлі, бліны грэцкыя.
*(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Саплевіч В.П.).*

***

Ой, вчора з вячоры
Засьвяціла зора,
Зора засьвяціла, людзей пабудзіла.
– Людзі, уставайце, каляды нам дайце,
Дайце, не шкодуйце, весело сьвятуйце!
*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А.).*

***

Ходіло-блуділо семьсот молойцов
Святы вечер.
Дай пріблуділо к тёмному лесу
Святы вечер.
К тёмному лесу, белом намёту
Святы вечер.
А в том намёту славный панічу
Святы вечер.
Славный панічу, дай нам для (імя хлопца)
Святы вечер.
Ой пане, пане, выведь нас отсюль
Святы вечер.

Выведь нас отсюль с тёмного лесу
Святы вечер.
С тёмного лесу, с белого намёту
Святы вечер.
А мы, молодцы, дарьма не хотім
Святы вечер.
Дарьма не хотім, добре заплатім
Святы вечер.
Як будешь женітца, построем мосты
Святы вечер.
Построім мосты все каменные
Святы вечер.
Поставім столбы все золотые
Святы вечер.
Повесім ковры все шелковые
Святы вечер.
Запалім свечі все восковые
Святы вечер.
Як будешь ехать назад с девкою
Святы вечер.
Загремят мосты все каменные
Святы вечер.
Засеяют столбы все золотые
Святы вечер.
Зашуршат ковры все шелковые
Святы вечер.
Загорать свечкі все восковые
Святы вечер.
Ой люді скажуть: «Дуброва гуде»
Святы вечер.
А маті скаже: «Мой сынок еде»
Святы вечер.
Мой сынок еде назад с девкою
Святы вечер.
Почём познала мяне матка?
Святы вечер.
Чі по коню вороном, чі по шуму золотом
Святы вечер.
Чі по ясной стрелцы, чі по красной девцы
Святы вечер.
Познала сынку по волосоньку
Святы вечер.
По волосоньку, по голосоньку
Святы вечер.
А з гэтым словом бывай здоров
Святы вечер.

Дай бывай здоров, дай жыві здоров,
Не сам с собою, с отцом, с маткаю,
С отцом, с маткаю, дай с семейкою,
Дай с семейкою, с веселенькою,
З усіма намі коляднічкамі.
*(Лышчыцы Брэсцкага р-на, зап. ад Хоміч З.К.).*

***

Ходіла пава каля паплава
Святы вечер.
А на поході перье народі
А за ёю йшла красная пані,
Красная пані, пані (імя дзевушкі)
Перьечко клала, в рукавіцу клала,
С рукавца брала, веночек віла.
Свівшы веночек, пошла в таночок.
Як сходіліся буйные ветры
Дай завеялі і пан-венок,
Её пан-венок у Дунай глыбок.
Як пошла она лужком-бережком
Дай устретіла трі рыболовы,
Трі рыболовы, трі молодые,
Трі молодые, трі хорошіе.
– Ой же вы хлопцы, вы рыбаловцы,
Закідайте свой шелковый невод
Дай вытяніте мой пан-венок,
Мой пан-венок із Дунай глыбок.
А я молода дарам не схочу,
Даром не схочу, добре заплачу:
Самом старшему мой повен-венок,
А середнему золотой перстень,
Самом младшему сама молода,
Сама молода вот як ягода.
*(Лышчыцы Брэсцкага р-на, зап. ад Хоміч З.К.)*

Абавязкова заклінаўся добры ўраджай у новым годзе:
Ходыць Ілля на Васылля,
Носыць пугу жыцяную.
Дэ махнэ – там жыто,
Дэ нэ махнэ – там нэма.
*(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Драб З.С.).*

***

Добры вечар тобі, пане господарэ.
Прыпеў: Радуйся, ой радуйся, земле,
Сын Божый народывся.
Застылайтэ столы та всэ калымамы.

Прыпеў.
Та кладіт' калачы з яроі пшаныці.
Прыпеў.
Бо прыйдут' до тэбэ тры празднікі ў госты.
Прыпеў.
А першы то празднык – Святое Рожэство.
Прыпеў.
А другый то празднык – Святого Васыля.
Прыпеў.
А трэтый то празднык – Свято Водохрышча.
***(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А.).***

***

Ой, господару, чі спіш, чі лежіш?
Ой, колі ты спіш, Господ с тобою,
А колі не спіш, говорі со мною.
Вставай с кроватыі, засветі в хаті.
Застелай столы все дубовые,
Клоді-ко пірогі все пшенічные.
Прідут до тебе любые гості,
Любые гості пірогі есті.
– Ой одін гостчок – дробен дождічёк,
А другі гостчок – ясен месячёк,
А третій гостчок – яснэ сонейко.
– Ой, што ш ты молвіш, дробен дождічёк?
– А я тэ молвію, як я возыйду,
А я возыйду в месяце маі,
В месяце маі, по трі раз на дне,
Як я возыйду, возрадуюцца
Жіто-пшеніцы, всякі пашніцы.
– Ой, што ш ты молвіш ясен месячёк?
– А я тэ молвію, як я возыйду,
А я возыду тёмное ночі,
Тёмное ночі, шчэй во полночі,
Як я возыйду, возрадуюцца
Гості у дорозі, а конь у возі,
Товар (скот) у боры, а рыба в моры.
– Ой, што ш ты молвіш, яснэ сонейко?
– А я тэ молвію, як я возыйду,
А я возыйду в ніздельку рано,
Возрадуюцца бабкі старэнькі,
Бабкі старэнькі, деткі маленькі
Да цэрквы ідучі, свечі несучі.
А з гэтым словом бывай здоров,
Дай бывай здоров, дай жыві здоров.
Не сам с собою, с отцом, с маткаю,

С отцом, с маткою дай с семейкою,
Дай с семейкою с веселенькою,
З усіма намі колядничкамі.

***

Васылёва маты
Пошла мандроваты:
На новое літо
Роды, Божэ, жыто,
Жыто, пшеныцю,
Горох, сачывыцю.
Дэ долынка –
Там копынка.
С колосочка –
Жыта бочка.
А в клуны вмолітно,
А в дісцы західна.
А в печі, як рожа,
Господынька гожа.
Піч вымытае,
Пырогы сажае.
Шчодрый вэчур настав,
Мэнэ батько послав.
Ріжтэ сало, куўбасу,
Я й додому понысу.
У-гу-гу,
Дайтэ того, шчо на рогу.
Кышкы, кубаскы,
Шэй ложэчку кашкы.
*(Тэльмы Брэсцкага р-на, зап. ад Селівонік Н.І.).*

***

Добры вечер, шчодры вечер
Добрым людзям повесь вечер!
Ці дома, дома сам пан-господар?
Ой колі дома, то надінь шубку,
То надень шубку, выйді на вулку,
Стань дай послухай, што в хмары гудэ,
Што в хмары гудэ, сам Господ іде.
Сам Господ іде, все рої веде,
Все рої веде дай расказвае:
– Летете, пчолкі, на сторіченьку
Посторіченьку, па новіченьку.
Посейте, пчёлкі, крытые медкі,
Крытые медкі, сыты сытіті,
Сыты сытіті, сыны женіті.

Жёлтые воскі Богу на свечкі,
Свечі сукаті дочкі отдаваті.
***(Лышчыцы Брэсцкага р-на, зап. ад Хоміч З.К.).***

Адно з галоўных абрадавых дзеянняў свята – абход двароў каляднікамі з удзелам маскіраваных персанажаў. «Збіралася моладзь, апраналі розныя адзенні, маскі звярэй. Ходылы по хатах со «звэздой», пелі песні. У песнях жадалі ўсяго самага добрага дому, у які прыйшлі. Жадалі добрага ўраджаю, добрых жаніхоў дзяўчаткам. Прасілі ў гарманіста, каб ён пагpaў. А за гэта неслі ёму яечка. Потым прасілі пачастунка ў хазяіна за нашыя песні, пажаданні. Нас частавалі пірагом. Розныя гульні булі: «Каза», «Кобула», «Мэдвэдзь». Вось, діткі, о так, бралыся за ручкі і водылы карагоды вакол «казы». «Каза» скакала, танцювала, було вэсэло, гучно» ***(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Карпук Марыі Іванаўны, 1925 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая).***

Абрадавае калядаванне такога тыпу звычайна ўлучае наступныя складнікі: 1) зварт да гаспадароў з просьбай упусціць у хату і дазволіць пакалядаваць («Пустітэ до хаты колядоваты. // На дворі мороз, стояты нэ мож. // Пустітэ до печі погріты плечі, // Пустітэ до грубы погріты зубы» ***(Кавярдзякі Брэсцкага р-на, зап. ад Курчак М.А.)***, 2) выкананне гульні-паказу і адпаведных славесных тэкстаў, 3) абдорванне і падзяку за яго. «Дети и молодежь переодевались в медведя, цыгана, цыганку, ведьму и обязательно в козу. После колядной песни цыган говорит медведю: «А ну-ка, Мишенька, покажи, что ты умеешь!» Медведь танцует, притопывает ногами, кувыркается. В конце Медведь кланяется для хозяев, чтобы они его угостили. Хозяева угощают Медведя. Затем цыган говорит: «А ну-ка, Козонька, поскачи» (коза скачет). Колядовщики:

Где коза рогом –
Там жито стогом.
Где коза ногой –
Там жито горой.

Затем коза падает, чтобы лучше их одарили. Цыганка говорит: «Ой, Боже, коза наша сдохла». Цыган приговаривает:

А щоб коза встала,
Дай, хозяйка, сала.
А щоб нэ болилы у еи ножкы,
Дай, хозяйка, щэй и пирожкы.

Хозяева угощают козу, она встает и дальше танцует. Цыганка в это время старается стащить что-нибудь со стола и спрятать (для шутки). Колядовщики благодарят хозяев и идут к другому дому» ***(Ляплёўка Брэсцкага р-на, зап. ад Лялько Л.І.).***

Менавіта калядныя абыходы з «казой» (сімвалам пладавітасці і жыццёвай сілы) і адпаведныя песні карысталіся найбольшай папулярнасцю. «Хадзілі з казой. Каза танцавала: «Трэба гаспадару даць сала, // Шоб наша ко́за встала». Калі ніхто нічога не даваў ці не адкрываў дзверы, то гаварылі: «У гэтай хаты няма чаго даты». А на Шчадруху хадзілі старые» ***(Чэрні Брэсцкага р-на, зап. ад Андрасюк С.М., 1930 г.н.).***

## ПАВАРОЧВАЙСЯ, КАЗЁЛ

Паварочвайся, казёл, на капыцікі,
На сярэбраныя, на ўсе крутыя.
Дзе казёл ходзіць, там жыта родзіць,
Дзе прабягае, там вылягае.
Дзе казёл рогам, там жыта стогам,
Дзе казёл хвастом, там жыта кустом,
Дзе казёл нагою, там жыта капою.
Ды пайшоў казёл па ўсіх старонах,
Ды знайшоў казёл караля ў зямлі
З каралiхаю, з гаспадынькаю.
Да ты, гаспадынька, не будзь такая,
Як тая была барабаніха,
Барабаніла нашага казла,
Нашага казла не ўдарыла, толькі смех учыніла.

*(Чэрні Брэсцкага р-на, зап. ад Данілавай Алены Іванаўны, 1925 г.н.).*

## ГО-ГО-ГО КАЗА

– Го-го-го каза, го-го шэрая,
Дзе рожкі дзела?
– На соль праела.
– Го-го-го каза, го-го шэрая,
Лезь каза на печ, пакажы чапец.
– Го-го-го каза, го-го шэрая,
Дзе каза ідзе, там жыта будзе.
– Го-го-го каза, го-го шэрая,
Дзе каза хвастом, там жыта кустом.

*(Чэрні Брэсцкага р-на, зап. ад Данілавай А.І).*

## ГО-ГО-ГО КАЗА

Го-го-го, каза.
Го-го-го, шэра.
Дэ рожкі дэла,
– На соль праела.
– Лызь каза на печ,
Пакажы чапец.
– На печы авёс
Вялікі парос.

*(Кустын Брэсцкага р-на, зап. ад Карпук М.І.).*

Дзіцячае калядаванне таксама магло ўключаць нашэнне зоркі, пераапрананне і часта адбывалася ў спрошчанай форме: «Колядоваты ходылы діты.

Батькі дома шыхуюцця до коляднэі вэчэры, а малыі пэрэдягаюцця, рысують «морду» – хто якую: хто чорта, хто шчэ кого – пэрэдягаюцця, шоб йіх ныхто нэ пузнав. Звэзду з рэшэта робылы. І як тыко стэмніе – выходылы на двір і шлы по сэлі, заходылы в хату, пісні спэвалы. Ну а вжэ хозяін хаты даваў ім шо-нэ-будь: хто колбаску, хто пырогі, хто сало. І так в кажнуй хаті. А як обыйдуть всё сэло, ставалы кола крыжа, тры разы кланялыся сэловы і ішлы дэлыты тое, шо назбыралы» *(Альха Брэсцкага р-на, зап. ад Шмыдкай К.М.)*. Замест уласна калядкі дзецьмі калі-нікалі выконвалася толькі яе канцоўка тыпу:

Кулядую, кулядую,
На пэчы куўбаску чую.
*(Орхава Брэсцкага р-на, зап. ад Жук З.Т.).*

Заканчваць сваё выступленне калядніки маглі традыцыйнай песняй ці вершаваным зваротам да гаспадароў:

Ой Коляда, колядыца,
Дайтэ маку да кутыцы,
Як нэ дастэ – откажытэ,
Моіх ножок нэ томітэ.
*(Збірагі Брэсцкага р-на, зап. ад Калчук Р.В., 1938 г.н.).*

***

Давай, баба, коўбасу,
Я до Бога понясу.
Бог не прімёт –
Назад понясу.
*(Орхава Брэсцкага р-на, зап. ад Жук З.Т.).*

***

Коляд, коляд, колядэця!
Добра з мэдом палюнэця,
А быз мэду ны така,
Дайты, дедьку, пятака,
А пятак ны такэй,
Дайты, дедьку, золотэй!
*(Прыбарава Брэсцкага р-на, зап. ад Пенцак Надзеі Іванаўны, 1952 г.н., бел., прав., мясцовая).*

Гаспадары стараліся даць каляднікам шчодры пачастунак, бо лічылі, што гэта забяспечыць ім дабрабыт. Напрыканцы выказваліся добрыя пажаданні і падзяка гаспадарам за «абдорванне», прыкладам:

Ой, спасібо тому дому,
Шчэй тый господыні.
Даруй лета счаслівым
Всій вашый родыні.
Даруй лета счаслівым
Всій вашый родыні.
*(Чэрск Брэсцкага р-на, зап. ад Міхалюк В.А., 1934 г.н.).*

Скупым гаспадарам адрасаваліся пагрозы і праклёны кшталту:

Як не даеце ў гэты вечар каляды,
То шоб за лето з'елі карову у вады (варыянт – авады)!
*(Лышчыцы Брэсцкага р-на, зап. ад Хоміч З.К.).*

**Святам Вадохрышча** – 19 студзеня (па праваслаўным календары) ці 6 студзеня (па каталіцкім) – завяршаліся зімовыя калядныя святкаванні. Адпаведна другі дзень пасля Вадохрышча называўся «Па абед Каляда» ці «Адпусціцель» *(Брэст, зап. ад Токуна Паўла Мікалаевіча, 1932 г.н.)*. У царкве асвячэнне вады адбывалася на вячэрнім богаслужэнні 18 студзеня. У гэты дзень не ўжывалі скаромнай ежы, а ўвечары спраўлялі апошнюю (бедную) куццю. «На водяную кутью 18 января заканчивались Колядки. На стенах домов ставили кресты, освящали святой водой жилье и сараи» *(Брэст, зап. ад Токун Яўгеніі Іванаўны, 1948 г.н.)*. Хрышчэнская вада лічылася «памоцнай». «Водохрышча – то вэльмы вэлыке цэрковнэ свято. То свято хрышчэння Ісуса Хрыста. Ёго ж хрыстылы в річцы, і як похрыстылы – і вода в туй річцы – в Іорданні – стала святэю. От і зара на Водохрышча воду в цэрквах хрыстять. То зара вода в цэркві, а раній воду прямо в річках хрыстылы. От в нас – тоді Буг шэ був открыты – вставалы рано і шлы на річку. На лёдовы вырубалы крыжа, і батюшка тоді служыв службу. А в конці – тры разы крыжа в тую полынку, шо вырубалы, опустыть, і тоді вжэ вода шчыталася хрышчонэю. Людэ набыралы еі хто в шо, а некоторыі купалыся в полынцы. І таявода повынна була стояты до следуюшчого Хрышчэння. Еі пылы, як дэ хто заболіе. А як тыко прыносылы додому – то разом святылы всю хату, подвір'е, скотыну, шоб год був удачны, шоб нэчысть всякую прогнаты» *(Альха Брэсцкага р-на, зап. ад Шмыдкай К.М.)*. «На Водохрышче воду святылы, кропылы кругом хаты, сараі, і пылы самы воду. Малым діткам головкы мочылы» *(Астрамечава Брэсцкага р-на, зап. ад Нігачой В.П.)*. «За нідылю робять крыжа з лёду і прорубу в річцы. Люды святят воду. Як воду посвятят, пускают голуба. Він обозначае, як душы літят. Люды бэрут свэчоную воду і святят водою всіх і скотыну, і хату, і самы п'ют. Налівают толькі в стаканчык, з кружкі пыты нэльга. Воду трымают дома, на случай, колы хто захворіе» *(Івахнавічы Брэсцкага р-на, зап. ад Пякарскай Марыі Сільвестраўны, 1927 г.н.)*.



Кустодиев Б.М.
Зима. Крещенское водосвятие, 1921 г.

# ЗАПАВЕДНЫЯ СЛОВЫ У СЭРЦЫ ЖЫВУЦЬ...

**Старонкі старадаўніх запісаў**



Удзельнікі фальклорнай экспедыцыі ў гасцях у Надзеі Славінскай





Намаляваныя мелам крыжы-абярэгі часта сустракаюцца ў вясковых хатах

Мінулым летам адбылася чарговая фальклорна-гістарычная экспедыцыя, прымеркаваная да вучэбнай практыцы студэнтаў, пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук, прафесара кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта ім. А.С. Пушкіна Іны Швед і рэдактара Брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс» Аляксандра Валковіча. Краязнаўцы пабывалі ў шэрагу населеных пунктаў Брэсцкага раёна, паслухалі і зрабілі запіс старадаўніх песень, успаміны старажылаў, азнаёміліся з сельскім побытам, з няпростымі лёсамі гаспадароў.

Вельмі часта ў рукі даследчыкаў траплялі старыя фотаальбомы, сшыткі з запісамі малітваў, вершаў, песень, жыццёвых настаўленняў... Амаль за кожным радком, напісаным часам няцвёрдай дзіцячай рукой або не надта пісьменным чалавекам – вера ў Сардэчнасць і Справядлівасць, у Бога, у Праўду і шчасце на зямлі... Не стаў выключэннем на адкрыцці і дом Надзеі Славінскай з вёскі Скокі. Яна, 1924 года нараджэння, вельмі даўно скончыла 3 класа польскай школы. Усё жыццё правяла ў Скоках.

Некаторыя, амаль выцвілыя ад часу запісы, мы сфатаграфавалі і пастараліся перавесці і расшыфраваць.

*Аляксандр МІХАЙЛАЎ*

Jednego Boga w trzech Osobach
nazywamy Trójcą Przenajświętszą

O Rzeczach
ostatecznych.

jakie są rzeczy ostateczne człowieka?
Rzeczy ostateczne człowieka są następujące: 1 Śmierć, 2. Sąd Boży 3. Niebo albo piekło.
Co to jest śmierć?
Śmierć jest to rozłączenie się duszy z ciałem.
Co to jest niebo?
Niebo jest to miejsce wiecznej szczęśliwości.
Co to jest czyściec?
Czyściec jest to miejsce

Może zobaczymy.
1. Idźmy leśną ścieżką,
Cicho, cichutenko,
Może zobaczymy sarniątko z sar
2. Może zobaczymy
wiewiórkeczkę małą
jak wesoła skacze
z gałęzi na gałąź.
3. I niech nikt po lesie
nie gwiżdże, nie woła
Może usłyszymy pukanie dzięcioła
4. A może zaśpiewa галонс
między gałązkami менҙзы
Jakiś mały ptaszek
którego nie znamy
5. I będzie nas wita
wesoła piosenka,
Tylko idźmy lasem
cicho cichutenko.

Бога ў трох Асобах мы называем Найсвяцейшай Тройцай.

## Пра рэчы апошнія

Апошнія рэчы чалавека наступныя:

1. Смерць,
2. Суд Божы,
3. Рай альбо пекла.

Што ёсць смерць?

Смерць – гэта адзяленне душы ад цела.

Што есць Рай?

Рай – гэта месца спрадвечнага шчасця.

Што ёсць чысцілішча?

Чысцілішча – гэта месца, у якім душы нябожчыкаў рознымі выпрабаваннямі ачышчаюцца ад грахоў, каб трапіць потым у рай.

## Можа мы ўбачым

Пойдзем лясной сцежкай
Ціхенька, ціхенька.
Можа мы ўбачым
Казулю з казуляткам.

Можа мы ўбачым
Маленькую вавёрку.
Ту, што хутка скача
З галінкі на галінку.

Хай ніхто ў лесе
Не свісне і ня кліча –
І паслухаць можна,
Дзяцел як стукоча.

А можа заспявае
У галінах высока
Маленькая птушачка,
Не ведаем якая.

І будзе нас вітаць
Вясёлая песненька.
Проста йдзем па лесе
Ціхенька, ціхенька.

Святое Пісанне (Біблія – гэта збор кніг, напісаных пад натхненнем Святога Духа.Аўтарамі Святога Пісання з'яўляюцца Бог і чалавек. Стары Запавет – гэта Слова Божае, накіраванае да людзей ад пачатку Стварэння да Нараджэння Сына Божага Ісуса Хрыста. Новы Запавет – гэта апісанне жыцця Збавіцеля і яго вучняў.

## Пра Пана Бога

Хто ёсць Пан Бог?

Бог – гэта Дух бясконцы дасканалы. Творца небу і зямлі.

Якія Асобы Боскія?

Існуе тры Асобы Боскія: Бог Айцец, Сын Божы і Святы Дух.

Як называем Адзінага Бога ў трох Асобах?

Бога ў трох Асобах мы называем Найсвяцейшай Тройцай.

1. Вітаем Вас Пастары,
   Старэйшыя хлопцы й дзяўчаты,
   Вітаем Вас малодшыя дзеці
   Радасна Вам усміхацца.

2. Вітаем Вас Пастары,
   У руках нашых кветкі
   Вітаем самых маленькіх
   Прынесеных дзетак.

4. Хай Вам Бог дапаможа
   Хай мілату вялікую дасць Вам
   Каб маглі Вы доўга працаваць
   У касцёле Хрыстосавым.

3. Вакол шмат людзей сабралася
   Гучаць спевы і грае арган
   Гэта для Цуду, Пастары
   Гэта прывітанне Вам.

# Песеннік у падарунак


Пусть ветер-деревя качимет,
Пусть ивы, шумят-над рекой,
А песни-даренные-мною
Останутся-вечно, с тобой?
ПЕСНИ?
Дорогой и любимой
Оличке?
От. Бабушке-Любови. 83 года.
2010 ГОДА.
Дорогая Оля, если-нравитца
то-храни, а ненравитца
ТО-"ПОРВИ"...
Дорогая Оличка, не друзей
люблю, а тибя, и тибе
желаю-тоже любит.
розу и меня? "Я"-"ТИБЯ"
"ЛЮБЛЮ"... УКРАЇНКА

У вишневому садочку, {начало} 1
Там соловейко-щибитав
Молоденький козаченько
Свою-дівчину-вговоряв.
Люба галочка-кохана
Забудь, про мене-козака
Полюби собі другого,
А цю любов знисе вода.
Не на теж-ми-полюбились,
Щоб любов-зносела-вода
А на теж ми полюбились
Ой щоб нас парочка-була?
Ой вийду на ту гору
Крикну я-додому.
Вари мати вечеряти
Тай-на мою, долю?
Варила-варила,
Ні багато-трошки,
Немаэ тобі, моя доню,
ні миски, ні ложки?

Школьны сшытачак у «клетачку», запоўнены тэкстамі старажытных песень і шчодра размаляваны палявымі кветкамі, жыхарка вёскі Казловічы Любоў Ларыёнава падарыла дырэктару Вістычскага сельскага клуба Вользе Васільеўне Врублеўскай. А та, у сваю чаргу, паказала яго рэдактару «Астрамечаўскага рукапіса» і дадала: «Вообще-то мы с бабушкой Любой даже не родственники, а вот, видите, подарок «внучке»...

Усяго ў зборніку больш за 80 песень на вядомай «трастянцы» і мясцовым дыялекце. Гэтыя песні калісь выконваліся на вясковых вяселлях і «бяседах», яны гучалі ў народныя святы і доўгімі зімовымі вечарамі за прадзеннем і шыццём-вышыўкай. На жаль, старажытныя народныя песні на вяселлях гучаць ў нашыя дні ўсё радзей і радзей...

Я ўпэўнены: бабуля Люба перадала зборнік песень сваёй маладосці ў сельскі клуб... з надзеяй. Бо народную творчасць тут усемагчыма падтрымліваюць і прапагандуюць. Передала, трэба адзначыць, у надзейныя рукі.

*Аляксандр ВАЛКОВІЧ*


{начало 7}
Прощай - деревня
Город - Кавказ,
Прощай дівчино,
Последний - раз.
Прощай - дівчино
Бо я вже йду
Благословила мати
На - війну.
Сам добре - знаю
Куди - я йду.
Тай понесу я груди свою?
Летіла пуля, через - гору
Тай - поранила
Вгрудь - мою.
Тай полилася, кров - рікою.
Аж до тихого, Дунаю.
А в тім Дунаї лежить козак.
Прийдь - же - мила
Мене - ховати? {кінець}


Чогось мені тяжко-важко {начало 19}
Мабуть скоро, я - помру,
Ой підіть ви - приведіть ви
Кого вірно я любю?
Полюбила я й Ванюшу
Розкудрявой - головой
Він кудрявий кучерявий
Його кудрі в-три ряда.
Розчешу я єті - кудрі
Сам до дівчини піду.
Пішовби я до дівчини
Так не знаю, де живе?
Попрошу я товарища
нехай мене проведе.
Попросивбе я товариша
Нехай мене проведе.
Так товариш, кращий - мене
Він дівчину - відіб'є.
Мостять, - мостять, мостовину.
Аж до милого двора.


25 Мав я раз дівчиноньку, щебетушку {начало 25}
Любу щебетушку - рум'яненьку
Гей-гей-га - уха - ха
Дівчино рибчино молода?
Послав я старостів у неділю
Думав, погуляємо на весіллі
Гей-гей-га, уха - ха
Дівчино рибчино молода.
Ждали повернутися з рушниками
Але повернулись з гарбузами
Гей-гей-га, уха - ха.
Дівчино рибчино молода?
Всьому супротивився батько рідний
Бо вона багата а я бідний
Гей-гей-га, уха-ха,
Дівчино рибчино молода
Думав я втопитися з тої злості
Та вода холодна, ломить кості.
Гей-гей-га, уха-ха
Дівчино рибчино молода {кінець}


Ой болить моя головонька {начало 26}
Так межи плечима
Треба мені дохтарика
З чорними очима
Ой не того дохтарика
Що він дохтарує
Але того ж дохтарика
Що хвайно цілує.
Ой болить моя головонька
Від самого - чола.
Не була я із миленьким
Ні нині, - ні вчора.
Небула я із миленьким
Ні вчора, ні нині
Ой як більше вже небуде
То буде по мині? {кінець}

**Жывая гаворка продкаў**

# КАЗКІ НАШЫХ БАЦЬКОЎ

## КОЗА – ПОДМАНЬШЧЫЦА

*Запісалі студэнты БрГУ імя А.С. Пушкіна Гаўрыленка С.В. і Шэўкунова В.В. у в. Чэрск Брэсцкага раёна ад Міхалюк В.А. (1934 г.н.).*

Жыв дід і бабка з дочкою, і була у іх коза. Погнала дочка пасты козу. Цылый дэнь пасла по лісцвы, по траўцы, по муравцы, а вэчором праганейэ до дому. Дід пытаецца в козы:

– Коза моя, козучка, дэ була? Шчо ты йіла, шо пыла?

Коза кажэ:

– Ныгдэ ны була, нычого ны йіла, нычого ны пыла. Тылько бігла чырыз мосточок, ухопыла клюновый лісточок, а як бігла чырыз грэбыльку, то вхопыла водыцы кропыльку.

Россэрдывся дід на дочку, шчо кепско попасла козу, насварыв на йыі і на другый дэнь отправыв бабу пасты козу. Цылый дэнь пасла баба козу по лісцвы, по траўцы, по муравцы, а вэчором праганейэ до дому.

Дід зноў пытаецца в козы:

– Коза, моя козучка, дэ була? Шчо ты йіла, шо пыла?

А коза зноў кажэ:

– Ныгдэ ны була. Нычога ны йіла, нычога ны пыла. Тылько як бігла чырыз мосточок, ухопыла клюновый лісточок, а як бігла чырыз грэбыльку, то вхопыла водыцы кропыльку.

Россэрдывся дід і на бабу, шо кепско напасла козу, насварыв на йэі. А на другой дэнь надягнув дід бабыного куфтана і хустку і погнав сам пасты козу. Цілый дэнь пас дід козу по лісцвы, по траўцы, по муравцы, а вэчором праганейэ до дому, пыруудягнувся в свойэ удяганне, сів на прызбі і чыкайэ козу з пашы.

Прыйшла коза на подвір'е, а дід в йейі пытаецца:

– Коза, моя козучка, дэ була? Шчо ты йіла, шо пыла?

А коза і кажэ:

– Ныгдэ ны була. Нычога ны йіла, нычога ны пыла. Тылько як бігла чырыз мосточок, ухопыла клюновый лісточок, а як бігла чырыз грэбыльку, то вхопыла водыцы кропыльку.

Рассэрдывся дід на козу-подманьшчыцу і выгнав йійі в ліс.



# ПАН І МУЖЫК

*Запісала студэнтка філалагічнага факультэта БрДУ імя А.С. Пушкіна Вікторыя Мацука ад Грушко Марыі Барысаўны (1915 г. н. ), жыхаркі в.Чыжэвічы Брэсцкага раёна*

Построів мужык хату. І думае сам собі: «Ны буду крыты хату соломыю, ліпш куплю гонты (чырыпыцю)». А паны ны любылы, шоб мужыкы гонтыю крылы. Вызэ мужык гонты. Дывыцця здалік – пан ідэ, і трэба ж ёму напопырэчыты. Дорога нычога – выбоі. Выбрав собі мужык рімнэ місцэ і став. А тут з лівого бока – баюра выліка, і думае сам собі: "Ныхай пан ідэ в гэту лужу. Ходэ кругом воза – вроді ладыть шось. А пан ужэ зусім блызько – крычыть пан по-польску:

– Сконд ты?

– Алэ, алэ, панночку, вызу гонты.

– А скілько ты вэзэш?

– Не, паночку, ны всі, йідь паночку, то купыш і ты.

– Ох, якый жэ ты дурны. Як пан пойідэ, то сам купыть!

– Проступы з дорогы, – крычыць пан по-местному.

– А шчо пан слыпый, а дорога свободна, я з краю стою.

– То еслі я пойіду, я ў болото попаду, а ты стойіш на сухому.

– Чому ж ты ны йіхав? А я поіхав по своій правый стороні.

– Я на тыбэ в суд падам, – крычыць пан.

– Я й і на суду тое скажу, шо пан дурный, еслі він командуе мыні йіхаты ны по свойій сторонні! Плюнуў пан, тай кажэ: «Ліпш с дурнем ны звезоватысь, бо і на суду мынэ опозорыть».

І прыйшлось пану йіхаты чырыз тую баюру.

*Падрыхтавала да друку*
*Эла МАРОЗАВА, дырэктар Брэсцкай раённай*
*цэнтралізаванай сістэмы*

# Прыбужскія песняры, музыканты і кампазітары працягваюць музычныя традыцыі старажытнага «Астрамечаўскага рукапіса»

*«Астрамечаўскі рукапіс» – гэты помнік беларускай музычнай культуры, вядомы таксама як «Рукапіс 127/56» Ягелонскай бібліятэкі (г. Кракаў). У ім собраны кірылічныя песні, канты, інструментальныя творы і велізарная колькасць прыкладаў танцавальнай музыкі XVII стагоддзя. Музычны рукапіс мае 64 лісты. Усе творы ў гэтым сшытку ананімныя, за выключэннем аднаго – інструментальнага твора «Fantazio», над якім значыцца «Пяро Зелімбоўскага».*

*Нашы прыбужскія кампазітары, большасць якіх лічыцца самадзейнымі, сення ствараюць цудоўныя песні, інструментальныя і іншыя творы на словы мясцовых аўтараў. Гэтыя выдатныя творы перыядычна выконваюцца ў сельскіх клубах, на раённых святах і мерапрыемствах. Але, на жаль, шырокай публіцы яны мала вядомыя.*

*Мы поўныя рашучасці выправіць гэтую памылку. У першую чаргу, дзеля таго, каб сярод народжаных на нашай зямлі сучасных музычных твораў не было ананімных. Дзеля таго, каб традыцыі, закладзенныя ў знакамітым «Астрамечаўскім рукапісе», жылі, працягваліся і пашырваліся.*

***РЭДКАЛЕГІЯ***

# Васільковыя вочы азёр

*сл. і муз. М. Якімук*

Я зір - ну на по - ле, лён бы сі - не мо - ра зноў як у дзя-
6 цін - стве ра - ду - е мя - не Вось і та да - ро - га, што вя - дзе да
12 до - ма І ка - жу я: "Дзя - куй." - род - най ста - ра - не. Ва - сіль - ко - вы - я
18 во - чы а - зёр, і па - лет - каў шы - ро - кі прас - тор: тут са - лоў - ка пя-
24 е і зя - зю - ля ку - е, тут зям - ля сва - ю сі - лу да - е

Я зірну на поле, лён, бы сіне мора,
Зноў, як у дзяцінстве, радуе мяне.
Вось і та дарога, што вядзе да дома.
І кажу я: «Дзякуй» – роднай старане.

*Прыпеў:*

*Васільковыя вочы азёр,*
*І палсткаў шырокі прастор:*
*Тут салоўка пяе і зязюля куе,*
*Тут зямля сваю сілу дае.*

Ты мяне сустрэла зноўку на парозе,
Вочы заблішчэлі радаснай слязой.
Мама, мая мама, я заўжды ў дарозе,
Але сваім сэрцам кожны дзень з табой.

*Прыпеў.*

І прашу я ў Бога, каб жыла матуля,
Каб маглі заўсёды да яе прыйсці
Водарам Радзімы надышусь пакуль я,
Бо на свеце месца лепей не знайсці.

*Прыпеў.*

# Домачевский вальс

*сл. і муз. М. Якімук*

И шеп - чет сос - на сос - не о счасть -
е, люб - ви и вес - не, о са - мой пре -
крас-ной по - ре, о встре - чах на школь-ном дво - ре.
И кру-жит он нас До - ма-чев-ский вальс. Он в па-мя-ти на-шей всег -
да. До - ма-чевс-кий вальс, вол - ну-ю-щий вальс, соб - рал он нас

Мы помним твои вечера и первый рассвет у костра.
И первая наша любовь, ты в юность вернула нас вновь.

*Припев:* *И кружит он нас Домачевский вальс.*
*Он в памяти нашей всегда.*
*Домачевский вальс, волнующий вальс,*
*Собрал он нас снова сюда.*

Любимый учитель, прости, ты нас вспоминай, не грусти.
Во взрослую жизнь навсегда ушли из родного гнезда.

*Припев.*

Мы встретимся снова с тобой, со школьной чудесной страной.
И как бы ни мчались года, мы помним о школе всегда.

*Припев.*

# Вистычский вальс

*сл. і муз. М. Якімук*

Яб - лоч - ный Спас - э - то празд - ник для нас. Он ос - вя - ща - ет всех
фрук - тов за - паас. Яб - ло - ни в пыш - ных на - ря - дах сто - ят, и о бо -
гат - стве о - ни го - во - рят. Ви - стич - ский вальс над зем - лё - ю кру
жит. Му - зы - ка в каж - до - е серд - це ле - тит. Ра - ду - ет ду -
шу род - на - я зем - ля - На - ши са - ды и ле - са и по -
ля.

Для молодых здесь условий не счесть.
Школа и сад, Дом культуры здесь есть.
Строят дома, создают здесь уют.
Лучшего места нигде не найдут.

*Припев:* *Вистычский вальс над землёю кружит,*
*Музыка в каждое сердце летит.*
*Радует душу родная земля –*
*Наши сады и леса, и поля.*

Любим мы свой удивительный край.
Наша земля, богатей, расцветай,
Вистичи наши прославим трудом,
Чтобы ещё краше был каждый наш дом.

*Припев.*

# Кавярдзяцкі падэспань

*сл. і муз. М. Якімук*
















Вось вясна абуджае прыроду
І птушыны пяе карагод.
Пазабытыя сёння няўзгоды,
Наступае кахання чарод.

*Прыпеў:*

*Падэспань, падэспань,*
*будуць зноў падэспань танцаваць.*
*Падэспань, падэспань,*
*будуць зноў падэспань танцаваць.*

Мы пра годы свае забываем,
Як калісьці, хвалюецца кроў.
І як толью гармонік зайграе,
Падэспань затанцуем ізноў.

*Прыпеў.*

Кавярдзякі прыгожая веска,
Расцвятае садамі вясной.
Прыязджайце да нас вы у госці,
Вас сустрэнем з адкрытай душой.

*Прыпеў.*

# Пусть нам с тобою повезет

*сл. Я. Григорович* *муз. Ф. Мозоля*

Ты замолчала – сердце загрустило –
Полёт мечты обрушился с высот,
И снегом всё вокруг запорошило.
Ну, почему в любви мне не везёт?

*Припев:*
*Ну, почему, моя ты почемучка,*
*Не разгадать твоей никак души?*
*Я в этой жизни – только самоучка,*
*Не разрывай мне сердце на куски.*

Хочу слова, чтоб были только правдой,
Чтобы любовь согрела мой полёт,
Мечта моя, чтоб снова стала явной –
Пусть нам с тобою всё же повезёт!

Чтоб наша дружба стала нерушимой,
А непогода была нипочём –
Слова любви пускай идут к тебе – Любимой
Согреют сердце пламенным теплом.

Быть может, возраст мой тебя смущает?
Я возраст наш совсем не признаю.
Ведь общность душ нас так с тобой объединяет,
На крыльях мотылька я к пламени лечу.



## Янина Константиновна ГРИГОРОВИЧ (Шепетуха)

Родилась в д. Видомля Каменецкого района Брестской области в простой и трудолюбивой семье. Училась в Видомлянской средней школе. Любовь к поэзии появилась с детства, со школьной скамьи. Думает, что в этом большую роль сыграли любимая бабушка Доминика и дедушка Иван, который был изумительным сказочником. Своими сказками он увлекал внучку, развивал её детское воображение и любознательность. Бабушка Доминика хорошо готовила и была большой аккуратисткой. И сейчас в памяти поэтессы вкусная, ароматная, с крестьянским маслом пшённая каша, приготовленная в чугунке в простой печке.

Издала шесть сборников поэзии и прозы, в которых воспевает человеческую любовь и преданность, доброту и верность, красоту природы, её величие. Многие стихи посвящены Отчизне, простым людям, друзьям, родному краю. Из окружающего мира, из общественной жизни черпает темы для творчества, которое связано также с верой во Всевышнего.

Живет в г. Бресте.



## Фёдар Аляксеевіч МОЗАЛЬ 1952 г.н., беларус

Фёдар Аляксеевіч прыехаў на працу ў Астрамечаўскі Дом культуры ў 1983 годзе пасля заканчэння Беларускай Дзяржаўнай кансерваторыі. За кароткі час стварыў некалькі калектываў мастацкай самадзейнасці: мужчынскі хор, змешаны хор, зводны хор Лышчыцкага сельскага савета, ансамбль гарманістаў, які ў далейшым быў ператвораны ў ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны».

У 1984 годзе назначаны дырэктарам Астрамечаўскага Дома культуры.

Дзякуючы Ф.А. Мозалю ансамбль музыкі і песні «Астрамечаўскія лявоны» вылучаецца сваім прафесіяналізмам, беражлівымі адносінамі да вытокаў беларускай музычнай і песеннай спадчыны.

Ён лаўрэат шматлікіх фестываляў і конкурсаў. Неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі і ганаровымі граматамі. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь.

З 2003 па 2006 год узначальваў аддзел культуры Брэсцкага райвыканкама.

# Полнолуние

*сл. Л. Красевской* *муз. Т.Колтынаевой*

1. Сакральным текстом – звезды над рекою.
   По краю месяц – яркая печать.
   Я все пытаюсь собственной рукою
   Его на зыбком облаке качать!
   Напрасный труд, быть может: менестрели,
   Романтики, поэты, колдуны
   Уже давно и искренно воспели
   Ночные похождения Луны.

2. Я не вступаю с ними в поединок, -
   Не рву чужой натянутой струны,
   Пока, бледнея, поднебесный инок
   Окрашивает тайной полусны...
   Какой Звезды отверженный поклонник?
   Кому ты дал пустынника обет?
   В моем окне, присев на подоконник,
   Рассыпал на пол серебристый свет!

ПРОИГРЫШ.

3. Я, утопая в лунном наводненьи,
Ищу свои к спасению слова.
Пусть унесут на крыльях вдохновенья
К счастливым дням! Идея - не нова.
Зато расстанусь с душною тоскою!
Зато смогу от боли не кричать!
И полный месяц собственной рукою
Всю ночь на зыбком облаке качать.



## Любовь Николаевна КРАСЕВСКАЯ

Родилась в с. Моисеевка Краснотуранского района Красноярского края (Россия). Окончила Абаканское педагогическое училище в 1972 году и ордена Знак Почета Высшую профсоюзную школу культуры города Ленинграда в 1990 году (организатор-методист культурно-просветительной работы высшей квалификации).

Работала во Дворцах культуры городов Черногорска и Красноярска.

В 1989 году переехала из Сибири в Беларусь, в г. Брест.

Автор поэтических сборников: «С любовью о любви», «На два голоса», публиковалась в антологии «Современное русское зарубежье», в коллективных сборниках «Мир – твоя колыбель…», «Созвучье слов живых», «Літаратурная карта Берасцейшчыны» и многих других.

Обладатель литературной премии журнала «Новый берег» (Дания, г. Копенгаген, 2007), диплома победителя республиканского литературного конкурса «Лучшее произведение 2009 года в области поэзии за книгу «На два голоса», победитель международного поэтического конкурса «Мир – твоя колыбель» (Германия, Висбаден, 2008 г.)

Член Союза писателей Беларуси. Заместитель председателя Брестского областного отделения Союза писателей Беларуси.



## Татьяна Анатольевна КОЛТЫНАЕВА

*1968 г.р., белоруска, образование высшее*

В 1987 году окончила среднюю специальную музыкальную школу при Белгосконсерватории по классу домры. В 1988 – Брестское музыкальное училище.

В 1993 году – Санкт-Петербургскую консерваторию по классу домры. В период обучения в консерватории работала в профессиональных инструментальных коллективах города Санкт-Петербурга: «Диво», «Золотая Русь», «Карусель».

С 1996 года преподаватель Тельмовской детской школы искусств. С этого времени она возглавляет ансамбль эстрадной музыки «Экспромт».

В 2006 году была назначена на должность директора Тельмовской детской школы искусств, но продолжает свою творческую деятельность в составе ансамбля как руководитель коллектива, солистка-инструменталистка и солистка-вокалистка.

# Czemu zawsze...

*Dedykuję Ewie Wosińskiej*

Czemu zawsze złota jesień
Łzy bez końca leje,
Czemu wonnej wiosny chce się,
Czemu smutkiem wieje?

To co przeszło, to co było,
Nieraz sercu szkoda
Czyżby wszystko się przyśniło?
Czyżby uszło z wodą?

Życie niknie jak ta mara
Jak ta mgła srebrzysta.
Co jest życie? Szczęście? Kara?
Czemu łza wciąż błyska?

Słońce wschodzi i zachodzi,
Zima zmienia lato,
Kres życiowy wraz nadchodzi,
Nie ma rady na to.



## Галіна Эрастаўна ГЕДЗІК

Нарадзілася ў 1959 годзе ў г. Брэсце. У 1978 годзе скончыла Брэсцкі музычны коледж. Затым завочна вучылася на філалагічным факультэце Брэсцкага Дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна. Працавала ў музычнай школе весцы Бронная Гара Бярозаўскага раёна. Больш за 20 гадоў – з пачатку аснавання – настаўнікам музыкі ў ГУА «Гімназія №3 г. Брэста».

Піша вершы і крытычныя артыкулы на беларускай мове, а таксама музыку на вершы Берасцейскіх аўтараў.

Друкавалася ў абласным і рэспубліканскім друку.

Выдала зборнікі песен на словы М. Пракаповіча, З. Дзюдук, Е. Янішчыц, М. Сулімы. Выпусціла дыск на словы М. Сулімы «На крылах музыкі».

Выхоўвае чацвярых дзяцей, малодшаму – 14 гадоў, усе захапляюцца музыкай і маюць музычную адукацыю.

Удзельніца сямейнага вакальна-паэтычнага ансамбля «Гербера» (мастацкі кіраўнік М. Суліма).

Жыве ў Брэсце.

# ВОДАР РОДНАЙ ЗЯМЛІ



***Марыя Сямёнаўна Якімук (Гарах)*** нарадзілася ў вёсцы Ліпінкі Брэсцкага раёна. Скончыла Дамачаўскую сярэднюю школу, Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С. Пушкіна.

Працавала настаўніцай пачатковых класаў у Брэсцкім раёне больш за 30 гадоў, большасць з іх – у Кавярдзяцкай школе-садку.

Вершы піша с дзіцячых гадоў. А таксама – апавяданні і песні. Выдала некалькі паэтычных зборнікаў: «Весны чудесные напевы», «Реальности и мечты», «Рассыпая любви слова», «Аккорды светлого дня».

Друкавалася ў раённай газеце «Заря над Бугом», абласных газетах «Заря», «Народная трыбуна», газеце «Сябра пенсіянера», калектыўных зборніках «Своя стихия», «Фантазии серебряного облака», калектыўным зборніке для дзяцей «Карусель», рэспубліканскім альманахе «Гоман», журнале «Акно».

Піша на рускай і беларускай мове.

Удзельніца хора ветэранаў Кавердзяцкага СДК.

Жыве ў в. Кавердзякі.

# ЛІПІНКІ

Гэта ўсё было даўным даўно...
Тых людзей ужо няма на свеце.
А легенду пра маё сяло
Ўсе павінны ведаць, нават дзеці.

На высокім беразе ля рэчкі
Вёсачка маленькая стаяла
Ліпамі абсаджана скраечку,
Бераг каб вада не размывала.

Абсадзілі ліпамі гасцінец,
Абсадзілі нават сенажаць.
І любы купец ці пехацінец
Ліпавага цвету мог нарваць.

Меладычна вёсачку назвалі –
Ліпінкі, бо ліпы тут цвілі,
Людзі харэство зямлі пазналі,
Бо яны вякамі тут жылі.

Час прайшоў, ад Буга адсялілі,
І гасцінец той травой зарос.
Ліпы тыя ўжо даўно спілілі,
Ліпінкі ля лесу, ля бяроз.

# КАВЕРДЗЯКІ

За подзвіг ці заслугі, кажуць людзі,
Узнагародзілі служывага зямлёй
Па прозвішчу Кавердзь, цяпер ён будзе
Тут жыць і працаваць не сам, з сям'ёй.

Зямля яго з гасцінца і да рэчкі.
Будуй жыллё, ары зямлю і сей!
А часу мала, бо праз год выцечкі
Павінен ехаць ён служыць далей.

А як паспець? Сабраў радню, майстроў
І дом Кавердзю хутка змайстравалі.
І хто ні ехаў міма і ні йшоў:
«Глядзі, Кавердзь які!» – усе казалі.

За год паспеў уладкавацца ён
І нават узараў сваю зямліцу.
Зноў маршам адпраўляўся батальён
Далей служыць, напэўна, на граніцу.

А потым вёску тут пабудавалі
І ў памяць пра героя на вякі
Так вёску гэтую назвалі,
Як ўсе казалі: «О! Кавердзякі!»

# ЦЮХІНІЧЫ

Далёкі час. Рака Лясная.
На беразе сядзяць тры браты-рыбакі.
Яшчэ ніхто з іх, мабыць, і не знае,
Што жыць яны тут будуць, ля ракі.

Гарыць касцёр. Кіпіць ужо юшка з рыбы,
І хоры салаўёў у зараслях лазы,
Вакол няма ніякае сядзібы,
Пасуцца коні і стаяць вазы.

Падкінуў нехта у касцёр паленца,
Штосьць праз раку шыбуе наўскасяк.
Зноў цюх ды хюх – ўе салавей каленца,
А тром братам не спіцца аніяк...

Прайшлі гады. Зноў людзі прыязджалі,
З'явілася сяльцо ля берага ракі.
Даўным-даўно, кажуць, браты яго назвалі
«Цюхі ў нічы» або «ЦЮХІНІЧЫ».

# СКОКІ, СТАВІШЧЫ

Лугі ля рэчкі заліўныя,
Трава ў пояс – не сцягнуць касы.
Гарцуюць коні, ды яшчэ якія!
Пароды рэдкай, велічнай красы.

Наладжваліся па гасцінцу скокі,
Мноства купцоў з'язджалася сюды.
Яны былі і зблізку і здалёку –
Пра скакуноў гаворкі йшлі тады.

А коні міма, бы віхор, ляцелі.
Былі адзін другога прыгажэй,
Здаецца, вецер перагнаць хацелі,
Здаецца, бліскалі маланкамі з вачэй.

На тым заводзе панскім працавала
Нямала конюхаў і пастухоў.
Яны і вёску заснавалі і назвалі,
Канешне ж, Скокі. У памяць тых гадоў.

А там, дзе летам табуны стаялі,
Дзе выпас быў ля самае ракі,
СТАВІШЧЫ – вёску так назвалі
Былыя конюхі-вартаўнікі.

# ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ

Жыццёвы мой шлях – шлях нягод і нянасця.
Тут радасць, бы сонца – у пору дажджу,
У мроях я толькі знаходзіла шчасце.
Таму ў задуменні і зараз хаджу.

Але ж карані свае моцна пусціла!
Яны – дзве дачушкі, унукі мае.
У іх – мая радасць, у іх – мая сіла,
Хай Бог ім шчаслівейшы лёс надае.

***

Куточак зямлі, да якога заўсёды
Вяртаюся я ад жыццёвых дарог,
Сустрэне з любоўю, бацькоўскі парог
Суцешыць мяне, зберажэ ад нягоды.

Да рук да бацькоўскіх змагу прытуліцца
У любую часіну – і ў дзень і ў начы.
Паплакацца можна на мамы плячы,
Якое паможа са шляху не збіцца.

Каб толькі ў таропкі наш час не забыцца,
Знайсці б толькі час у бацькоў пабываць,
Паспець свае словы падзякі сказаць,
Каб толькі пачулі яны, не спазніцца б.

## ВЯЛІКІЯ СВЯТЫНІ

На дарозе жыцця сярод бруду і пылу
Не згубіся, мой дружа, цябе я прашу,
Не скрыві ты свой шлях, устаяць знайдзі сілу,
Каб забыцца, не пі, не прымай анашу.

Бо жыццё – то вялікае выпрабаванне.
І не зможаш ты скокнуць паверх галавы...
Дапамогуць табе толькі праца, старанне,
І любоў і каханне – будзь з імі на Вы.

Памятай пра вялікія нашы святыні:
Бог, Бацькі і Радзіма – ты іх не прадай.
Калі нават жыццё будзе горай палыну,
Вер, што будзе салодкі і твой каравай.

## МАЯ БРЭСТЧЫНА

Мая Брэстчына – рэчкі, азёры,
Жураўліны, бусліны мой край,
У траве тут купаюцца зоры
І гамоняць лясныя прасторы,
А у квецені лашчыцца май.

Дыванамі вясна засцілае
Каля лесу лугі і палі,
Тут бярозка касу заплятае
І салоўка сюды прылятае,
Бударажыць нас водар зямлі.

Вербы голавы долу схіляюць,
Мыюць косы у чыстай вадзе...
Тут дзяўчаты пра шчасце спяваюць,
Родны край брэсцкі наш праслаўляюць –
Лепей краю не знойдзеш нідзе.

***

Дзьмухаўцы распушылі галоўкі –
Парасончыкі з ветрам ляцяць,
У цішы льецца песня салоўкі,
Як сяброўкі, бярозы стаяць.

А на лузе – нябесныя вочкі –
Гэта дзікая мята цвіце.

З іх дзяўчаты сплятаюць вяночкі,
Пчолка чысціць свой нос на лісце.

Вецер лашчыцца і абдымае...
Сонца грэе мяне і зямлю...
Сэрца радуецца і чакае.
Каб пачуць: «Я кахаю, люблю!»

***

Зноў вясна па зямельцы гуляе,
Лашчыць ветрыкам скроні мае,
А душы цеплыні не стае,
Бо не збыцца імкненням у маі.

Хоць пялёсткамі чыстай сінечы
Сон-траву ахінае вясна,
І бялюткую хустку яна
Накідае чаромсе на плечы.

Хоць і цешыць жаўрук наваколле
Пералівамі гукаў вясны...
Адганяюць зімовыя сны
Журавы, што курлычуць над полем.

Божа мой! Не магу не здзіўляцца,
Як Радзіма іх кліча сюды!
І ляцяць яны з песняй заўжды,
Каб гняздзіцца, жыццём захапляцца.

***

На палетках аж брынчыць вада,
Заліла палі і агароды...
Ну якая, раскажы, бяда,
Лецейка, ты з кім не маеш згоды?

Перастань ліць слёзы, не маўчы,
Раскажы, як мне цябе суцешыць?
Сонейка прашу дапамагчы,
Хай вясёлку над зямлёй развесіць.

***

Зіма не дамяла, не дагуляла
І рэшткі снегу з неба не змяла:
Таму ўсе хаты снегам зашпуляла,
Закідала дарогу да сяла.
Але вясна свае спявае песні,

Дажджом змывае снег з вясковых хат,
І сонейка цяплом нас грэе веснім,
Па полю ходзіць грак, бы дыпламат.

Курлычуць журавы і шпак спявае,
І цягнуць гусі ў небе ланцужок...
Зямля прачнулася і ажывае –
Ужо скінула зімовы кажушок.

***

З неба апусцілася вясёлка
У рачулку, можа па ваду...
Сцежкай лугавою я іду,
Дзе нектар на кветцы цягне пчолка.

А за лугам каласоў гамонка,
Побач хвалямі шапоча лён...
Ты прымі дачкі сваёй паклон
Родная, любімая старонка.

***

Мяне ўразіў клён, сярод бяроз
Ён палымнеў агнём чырвонай кроны,
Ну а другі, той асляпляў да слёз,
Бы сонца зіхацеў убор ягоны.

А кропелькі расы на лісцях іх
Міргалі пералівам перламутру...
Зноў восень сонечная ў водблесках сваіх
Дарыла дрэвам радужнае футра.

***

Дурманіць пах квітнеючых садоў...
Гляджу на белы шалік з захапленнем,
І кожнае вясною зноў і зноў
Мяне душа адорвае натхненнем.

Здаецца, што і я, як сад вакол,
Прачнулася, свае гады скідаю,
І як нектар для згаладаўшых пчол,
Вясновы водар мне, яго ўдыхаю.

І сэрцу зноўку хочацца спяваць,
Надзея кліча, як бусла, ў дарогу...
Каб пра вясну, пра шчасце расказаць,
Прыйсці душы сваёй на дапамогу.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег, як першае каханне,
Белы, чысты, нават трапяткі...
Як калісь, прыйшоў ты на спатканне,
Дакрануўся да маёй рукі...

І па целу дрыжыкі пабеглі...
Сэрца тарахцела, як матор,
...Бо й тады мялі ўжо завеі,
І такі ж бялюткі быў прастор...



## НАВАГОДНЯЯ НОЧ

Навагодняя ноч заіграла агнямі,
І заззяла вясёлкамі сотняў гірлянд...
Красавалася зорнае неба над намі
І шарамі салютаў, маланкай пітард.

Але сэрцу не радасна, нават трывожна...
Не хапае чагосьці, а, можа й, кагось...
Каб гады маладосці вярнуць было можна!
І да ранку скакаць каля ёлкі маглось.

Каб ізноў, як тады, пацягнула на плошчу,
Дзе калісь віншаваў нас з табой Дзед Мароз,
Дзе пад гучны гармонік спявалі прыпеўкі
І смяяліся лёгка і смачна – да слёз!

Новы год! Падары свае добрыя цуды:
Дай бадзёрасці, моцы і сілы, дабра...
З Новым годам сяброў віншаваць зноўку буду!
А пакуль сустракаць Новы год мне пара.

...Вось ужо й прыгажосць маё сэрца трывожыць,
Нават, трошкі ласкоча і цешыць душу...
Каб пачуцці ўсё, зберагчы і памножыць,
Дзед Мароз! Пацалункаў тваіх я прашу!

# ВЕРШЫ, ЯКІЯ ІМКНУЦЦА КВІТНЕЦЬ



***Марыя Цехановіч-Суліма*** нарадзілася ў 1937 г. у Гродне. Яна з'яўляецца дачкой польскага афіцэра – лекара 76 пяхотнага палку імя. Л. Нарбута ў Гродне, Рычарда Цехановіча. Марыя вучылася ў рускай школе, якую скончыла з адзнакай. Выдатна здала ўступныя экзамены на фізіка-матэматычны факультэт педагагічнага ўніверсітэта Гродна. Выйшла замуж за Лявона Суліму, настаўніка матэматыкі. Калі яе муж быў запрошаны на працу ў Тэхнічны ўніверсітэт Брэста, сям'я змяніла месца жыхарства. Першапачаткова выкладала фізіку ў Тэхналагічным універсітэце, потым – ў сярэдняй школе ў Брэсце. Сын – лекар хуткай дапамогі ў Брэсце, нявестка ўзначальвае паліклініку ў аграгарадку Астрамечава.

17 гадоў Марыя Цехановіч-Суліма ўзначальвае Брэсцкі філіял польскага асветніцкага таварыства «Палессе» – «Польска мацер школьна». У цеснай сувязі з таварыствам «Палессе» працуюць клубы Маладой Польшчы «З песняй па жыцці» і «Белы арол», клуб польскіх жанчын, універсітэт трэцяга ўзросту, польскае медыцынскае грамадства, харцэрская дружына імя Крысціны Крахельскай, міжнародны жаночы клуб «Брэсцкая полька», музычна-паэтычная суполка «Гербера», у якіх Марыя Рышардаўна адна з першых арганізатараў. Таксама арганізуе канцэрты ў Беларусі і Польшчы, міжнародныя канферэнцыі, прысвечаныя выдатным людзям Палесся, клапоціцца аб хоры «Палессе», узнагароджана Залатым крыжам за заслугі.

Піша вершы на польскай і рускай мовах, а таксама музыку на свае творы. Надрукавала тры зборнікі вершаў. Тройчы была лаўрэатам Польскіх міжнародных паэтычных конкурсаў, атрымала ўзнагароду імя Вітольда Хулевіча, Жыве ў Брэсце.

У адным са сваіх зборнікаў паэтка напісала:

«Бронзавых статуй мне не патрэбна,
Іх шум стагоддзяў з часам змяце,
Калі душы будуць пазваны ў неба,
Хай мае вершы пачнуць квітнець».

# Беловежская пуща

Средь полесских красот первозданной природы
Тишь болот вековых, серебристые воды,
Словно шепчут молитву старых елей верхушки –
Это древняя пуща, Беловежская пуща.

Там зубриные тропы в лесу исчезают,
Золотистые искры луна рассыпает,
И манит и пьянит медом вереск цветущий –
Это милая сердцу Беловежская пуща.

Яркой радугой дождь над борами колдует,
Там цветы красотою неброской чаруют,
Там звенят трели птиц на рассвете поющих –
Это песня души, Беловежская пуща.

Журавлиные перья на травы упали,
Словно жемчуг в росе на заре засверкали.
Там молочный туман будто призрак плывущий –
Это дивная пуща, Беловежская пуща.

Родниковые воды что-то шепчут извечно:
Там душа жаждет с небом говорить бесконечно,
Там дубы-исполины, бури их не разрушат, –
Это гордость моя, Беловежская пуща.

Там плывут облака, будто лебеди в небе,
Тихой полночью звезды ведут там беседы.
Все влечет и зовет, все пленит мою душу –
Здесь земля моих предков, Беловежская пуща.

Гибнут царства, твердыни в руинах замшелых,
В судьбах наших так много страниц еще белых.
Я молюсь и прошу, чтоб Господь Всемогущий
Сохранил, уберег Беловежскую пущу.

# Puszcza Białowieska

Jest miejsce na Ziemi baśniowej urody,
Tam bagna wiekowe, srebrzyste tam wody,
Tam cisza anielska modlić się zmusza.
Wieczysta to Puszcza, Białowieska ta Puszcza.

Żubrów tam ścieżki gdzieś giną w gęstwinie,
Wonne powietrze jak welon tam płynie.
Złociste iskierki księżyc wciąż pruszy.
Urocza to Puszcza, Białowieska ta Puszcza.

Tam tęczą po deszczu zdobią się lasy,
Kwiaty poleskie czarują swą krasą
Tam słowik zaśpiewa, tam słychać krzyk głuszca.
To pieśń mojej duszy Białowieska ta Puszcza.

Tam pióra sokołów i pióra żurawi
Niby te perły rozsiane w murawie,
Ich pieśń pożegnalna serce tak wzrusza.
Dziewicza to Puszcza, Białowieska ta Puszcza.

Tam senne strumyki płyną przez wieki,
Tam z niebem rozmawia dusza człowieka,
Tam dębów sędziwych huragan nie skruszy
Dumą jest moją - Białowieska ta Puszcza.

Tam płyną obłoki jak skrzydła łabędzi,
O czymś tam gwiazdy z sobą gawędzą.
Zakątek tej Ziemi wabi wciąż duszę
To ziemia mych Przodków, Białowieska ta Puszcza.

Giną mocarstwa, drzemią twierdze w ruinach,
Losy ludzkie są zmienne jak wiatry w pustyniach.
Ból serca gorliwie modlić się zmusza
Boże Wszechmocny, zachowaj nam Puszczę.

# Тадеушу Костюшко

Дремучие сосны в глубинке Полесья
Бесшумно ведут разговор вековой
О том, как в шляхецком скромном поместье
Родился Костюшко – бессмертный герой.

О том, как Полесье грудью вскормило,
Поило целебной водой ключевой,
Чтобы энергии, доблести, силы
Хватило с избытком на шар весь земной.

Над домом родимым, здесь, несомненно,
Душа его птицей парит голубой.
Одна только дата – дата рожденья
Дарована щедро герою судьбой.

Америка свято чтит память героя
И Краковский Рынок, где клятву давал.
Но помнит Россия, как под конвоем
Без памяти пленный был брошен в подвал.

Вращаясь, Земля летит в бесконечность
Гибнут державы, высыхают моря.
Только Костюшко остался навечно
Символом мужества, свободы, добра.

Героев усадьбы сейчас в Белоруссии
Как Феникс из пепла являются вновь,
Чтоб не забыть поколеньям грядущим,
Что жизни основа – свобода, любовь.

Гибелью веет от атомной стужи
И дышится трудно планете родной.
Верим мы в Бога, но очень нам нужен
Такой как Костюшко – бесстрашный герой.

# Tadeuszowi Kościuszce

Drzemiące wciąż sosny w Polesiu bezdźwięcznie
Bez przerwy od wieków prowadzą rozmowę
O czasach, gdy w dworku szlacheckim maleńkim
Urodził się Polak – bohater światowy.

O tym, jak Polesie go piersią karmiło
Poiło go wodą źródlaną leczniczą
A żeby energii i sił mu starczyło
Z zapasem dla globu całego przez życie.

Kościuszki duch krąży wciąż bez zwątpienia
Nad domem ojczystym jak orzeł na straży
Jedyną go datą – datą urodzenia
Na wieki wieczyste los hojnie obdarzył.

Ameryka herosa otecza czcią świętą
I rynek Krakowski, przysięgę gdzie składał
No Rosją na pewno też dobrze pamięta
Jak był do lochu wrzucony bezwładnym.

W przestrzeni kosmicznej wciąż Ziemia się kręci
Natura, państwa, bory kają się z klęską
Tylko Kościuszko pozostaje w pamięci
Symbolem wolmości, dobroci i męstwa.

Bohaterów siedziby na Białorusi
Jak feniks z popiołu wskrzesają bajecznie
Przypomnieć potomnym naszym wciąż muszą
że miłość i wolność – wartości są wieczne.

W śmiertelnym powiewie króluje już atom
Zmęczona planeta oddycha z zadyszką
Wierzymy w Boga, lecz niezbędny jest światu
Bohater bez skazy – Tadeusz Kościuszko.

# САМ-НАСАМ З ЖЫЦЦЁМ



***Аляксей (Леанід Георгіевіч) Філатаў*** нарадзіўся ў 1939 годзе на Віцебшчыне. У першы ж дзень вайны асколкам фашысцкага снарада забіла яго матулю, выкладчыцу Брэсцкага педагагічнага вучылішча. Хлопчык-сірата выхоўваўся ў сям'і настаўніка А.Н. Афанасьева з вёскі Ляхаўцы, што пад Маларытай. У маленстве ён зведаў фашысцкі канцлагер. За жыццё набыў прафесіі чыгуначніка, журналіста, настаўніка. 35 гадоў працаваў у Брэсцкім раёне. Быў карэспандэнтам раённага радыё, метадыстам РайАНА, старшынёй райспарткамітэта, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Мухавецкай, Скокаўскай, Клейнікаўскай школах.

Яго творы пачалі з'яўляцца ў друку з 1958 года, і сёння Аляксей Філатаў – аўтар дзесяці кніг надзвычайна цікавай, змястоўнай, стылёва адметнай прозы.

Жыве ў аграгарадку Мухавец.

